19 красавіка 2019 | № 15 (626)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

Чырвонаармеец Адольф Гітлер
Стар. 8

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144









# Попел Чарнобыля

## Урокі катастрофы на ЧАЭС мы пакуль не засвоілі



Сяргей ПУЛЬША




Самай вядомай тэхнагеннай катастрофе XX стагоддзя — аварыі на Чарнобыльскай АЭС — спаўняецца 33 гады. Забыцца на яе мы не можам, бо Чарнобыль яшчэ доўга будзе грукацца ў нашы сэрцы.

Гэты тэрмін — 30 гадоў — перыяд паўраспаду цэзію–137 і стронцыю–90. Але гэта зусім не азначае, што раптам забруджаныя раёны сталі «чыстымі». Для таго, каб лічыць праблему вычарпанай, паводле меркавання навукоўцаў, трэба не менш за 10 перыядаў паўраспаду. А значыць — 300 гадоў.

Безумоўна, зараз пра катастрофу на ЧАЭС мы ведаем шмат. Асабліва апошнім часам, калі Служба бяспекі Украіны рассакрэціла больш за сотню дакументаў па пабудове і эксплуатацыі гэтай атамнай станцыі. Напрыклад, пра тое, што пры будаўніцтве ЧАЭС выкарыстоўвалася бракаванае югаслаўскае абсталяванне. За некалькі гадоў да катастрофы ў дакладных запісках КДБ указваў на памылкі ў праектаванні станцыі, адзначалася, што ў фундамент і будынак заліваўся бетон неналежнай маркі, былі выяўленыя расколіны, расслаенне фундаменту...

Шмат кажуць пра тое, што ЧАЭС грымнула ў выніку нейкіх эксперыментальных выпрабаванняў, і віной усяму — «чалавечы фактар».

Але мне падаецца, што «чалавечы фактар» быў не толькі ў Чарнобылі. Ён працаваў (і працуе) ад самага пачатку ядзернай энергетыкі. Нас пераконвалі — і працягваюць пераконваць, — што аварыі кшталту Чарнобыльскай магчымыя ці не раз на 10 тысяч гадоў. Аднак за крыху больш чым паўстагоддзя развіцця «мірнага атаму» мы ўжо зазналі маштабныя катастрофы ў Фукусіме, Тры-Майл-Айлэнд (там здарылася нешта падобнае да Чарнобылю, але не было такіх жахлівых наступстваў, бо над рэактарам быў загадзя ўзведзены абарончы купал), на камбінаце «Маяк» пад Чалябінскам, уласна ў Чарнобылі... Занадта аптымістычныя ацэнкі прыхільнікаў ядзернай энергетыкі — гэта таксама «чалавечы фактар».

Як ні дзіўна, мы гэты фактар працягваем культываваць і пашыраць. Каб у 1980-я гады народ ведаў, з якімі парушэннямі ўзводзіцца ЧАЭС, каб гэта было не толькі ў дакладных запісках КДБ, — можа, і станцыю не запускалі б. Зараз — часы большай галоснасці і інтэрнэту. Але што мы ведаем пра пабудову Астравецкай АЭС?

Найперш тое, што нам абяцалі рэферэндум па гэтым пытанні, а ён так і не прайшоў. Мы ведаем, што будаўнікі стукнулі аб зямлю рэактар, і яго давялося мяняць. Мы ведаем, што Астравецкая пляцоўка — не самае лепшае месца для АЭС, і тое, што падчас пабудовы станцыі на аб'екце здарылася больш за 10 няшчасных выпадкаў, прычым некаторыя — са смяротным зыходам.

А колькі «інцыдэнтаў» засталося па-за нашай увагай?

Самі рэактары Астравецкай АЭС — ВВЭР-1200/491 — пакуль можна лічыць «эксперыментальнымі». Іх планавалі паставіць на Ленінградскай і Балтыйскай АЭС у Расіі. ЛенАЭС і БалтАЭС пачалі будаваць раней за БелАЭС, аднак пакуль толькі на ЛенАЭС запрацаваў адзіны (!) рэактар такога тыпу, і працуе ён яшчэ менш за год.

Да гэтага часу не вызначана, як і дзе мы будзем захоўваць адпрацаванае паліва: нібыта, будзем адпраўляць у Расію на перапрацоўку, але адпаведнага міжурадавага пагаднення няма. «Давайце спачатку запусцім станцыю і будзем адпрацоўваць міжурадавае пагадненне», — сказаў днямі намеснік міністра энергетыкі Міхаіл Міхадзюк. Дагэтуль не вядома, як, па выразе Лукашэнкі, «АЭС будзе ўбудаваная ў эканоміку краіны»: паводле словаў таго ж Міхадзюка, створана рабочая група, якая адпрацоўвае розныя сцэнары тарыфнай палітыкі што да кошту электраэнергіі. І ў дадатак, невядома, каму мы будзем прадаваць яе лішак — ані Літва, ані Польшча «атамную электрычнасць» купляць не хочуць...

> **Калі пытанняў да АЭС больш, чым адказаў на іх, — ці не ёсць гэта першасным «чалавечым фактарам» на шляху да далейшых памылак?**

Ну і тое, чаму нас навучыў, зноў жа, Чарнобыль. Навукоўцы і цяпер спрачаюцца пра ўздзеянне малых дозаў радыяцыі на арганізм. Некаторыя, як прафесар Бандажэўскі, лічаць іх небяспечнымі. Пры гэтым ніводная АЭС не працуе без выкідаў. Як правіла, гэта так званыя кораткажывучыя ізатопы, але яны ўсё ж ёсць. Таму работнікі АЭС штодзень праходзяць да свайго працоўнага месца і выходзяць з яго праз дазіметрычны кантроль. І пытанне з «малымі дозамі радыяцыі» для тых, хто будзе жыць навокал Астравецкай АЭС, застаецца ўсё ж адкрытым.

Калі пытанняў да АЭС больш, чым адказаў на іх, — ці не ёсць гэта першасным «чалавечым фактарам» на шляху да далейшых памылак? Можа, варта было б спачатку на гэтыя пытанні адказаць, а не кіравацца логікай: «Запусцім рэактар — там пабачым»?

Як піша «Газета.ру», навукоўцы са Швейцарскай вышэйшай тэхнічнай школы ў Цюрыху і Орхускага ўніверсітэта ў Даніі правялі ўсебаковы аналіз усіх вядомых інцыдэнтаў і аварый на атамных станцыях свету пачынаючы з 1946 года, каб ацаніць рызыкі ў атамнай энергетыцы. Паводле іх падлікаў, з верагоднасцю ў 50% Фукусіма паўторыцца ў наступныя 50 гадоў, Чарнобыль — у наступныя 27 гадоў і Тры-Майл-Айленд — у 10 гадоў.

Божа, барані Астравец!

# «Цяпер нам абвешчаная вайна»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У Мінску грамадскасць распрацавала план дзеянняў па абароне Народнага мемарыялу на бліжэйшы час.**

Знішчэнне крыжоў у Курапатах 4 і 13 красавіка вымагае ўзмоцненай аховы мемарыялу. У офісе Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) адбыўся круглы стол па сітуацыі ў Курапатах.

Як зазначыла грамадская актывістка Ганна Шапуцька, знішчэнне Курапатаў пачалося з будаўніцтва «Бульбаш-хола». «Як толькі мы гэта заўважылі ў 2012 годзе, мы пачалі біць у званы. Але нейкі час рэстарацыя не працавала. Ніхто не думаў, што будзе такі сумны працяг у гэтай гісторыі», — сказала яна.

Па словах грамадскага дырэктара мемарыялу «Курапаты» Алеся Чахольскага, да 2012 года, а потым да 2017-га, пытанне мемарыялізацыі Курапатаў на дзяржаўным узроўні не ўздымалася. «Калі пасля спробы пабудовы бізнес-цэнтру ў 2017 годзе пачала працаваць рабочая група, усе яе ўдзельнікі пагадзіліся з канцэпцыяй мемарыялу і з тым, што крыжовы перыметр з'яўляецца элементам мастацкай агароджы. Але працоўная група скончыла працу і пачалася дзяржаўная мемарыялізацыя. Грамадскасць прапаноўвала кампрамісныя варыянты размяшчэння дзяржаўнага помніка на ўваходзе, аднак усе кампрамісы былі адрынутыя», — заявіў ён.

Грамадскія актывісты перакананыя, што задачай чыноўніцтва было ўзяць мемарыял пад кантроль, каб грамадскасць туды не мела доступу.

«Цяпер нам абвешчаная вайна. Ідзе пакрокавая акупацыя Беларусі. Адзін з яе пунктаў — знішчэнне нашага Нацыянальнага некропалю. Калі мы думаем, што гэта Лукашэнка, — гэта не так, ён толькі выканаўца», — перакананы Алесь Чахольскі.

Даследчык сталінскіх рэпрэсій Ігар Кузняцоў настаяў, каб на памятным знаку з'явіўся подпіс, што ён пастаўлены ў памяць аб ахвярах сталінскіх рэпрэсій, які першапачаткова наносіць адмаўляліся. Гісторык зазначыў, што памятны знак увосень быў прыняты, але ўсё яшчэ не адкрыты і не асвечаны ніводнай з канфесій.

Актывісты змагаюцца за вяртанне вырваных крыжоў пры дапамозе зваротаў у дзяржорганы. Зміцер Дашкевіч ужо падаў заяву ў Генпракуратуру адносна зносу 70-ці драўляных крыжоў 4 красавіка. Алесь Чахольскі таксама адправіў генпракурору дакументы па 24-х знесеных жалезных крыжах.

Згодна з Канстытуцыяй і Кодэксам аб культуры, грамадскасць мае права знаёміцца з праектам, зазначыла Ганна Шапуцька. Пасля першага зносу крыжоў яна даслала запыт у пракуратуру, каб даведацца, на якой падставе былі знесеныя крыжы, а таксама зварот да Лукашэнкі.

Цяпер рыхтуецца і зварот у Міністэрства культуры. У ім актывісты адзначаюць, што плот і брама, усталяваныя ў Курапатах, ніяк не суадносяцца з мемарыялам, і патрабуюць вярнуць знесеныя крыжы. Таксама патрабуецца зладзіць грамадскае абмеркаванне праекту, правесці конкурс, і толькі пасля гэтага праводзіць працы ў мемарыяле. Тое, што адбываецца ў Курапатах цяпер, актывісты лічаць беззаконнем, якое супярэчыць адразу некальім беларускім нарматыўным актам. Ад Мінкульта патрабуюць адказаць на пытанне: паводле якога праекту праводзяцца працы і хто выдзеліў грошы на іх правядзенне?

Апроч таго ў мемарыяле працягнуць трымаць малітоўны чын. У бліжэйшую нядзелю, 21 красавіка, у 14.00 па перыметры Курапатаў пройдуць крыжовым шляхам.

1 траўня споўніцца 30 гадоў, як адбылася першая шматканфесійная малітва ў Курапатах. У гэты дзень яе плануюць паўтарыць у мемарыяле ў 14.00.

На Радаўніцу актывісты падалі заяўку на правядзенне крыжовага шэсця ад Свята-Ўваскрасенскай царквы на вуліцы Гамарніка ў Курапаты.

# Улада хоча надаць справе Паліенкі палітычны кантэкст?

**Следчы камітэт паведаміў, што былому палітвязню Зміцру Паліенку выстаўлена абвінавачванне адразу паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэкса: асабліва злоснае хуліганства (ч. 3 арт. 339), распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці (арт. 130), а таксама апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці (арт. 341).**



Паводле дадзеных следства, 13 сакавіка «на лесвічнай пляцоўцы аднаго з дамоў па вуліцы Гурскага ў Мінску неўстаноўленая асоба ў адказ на заўвагу мужчыны пра курэнне ў пад'ездзе пырснула яму ў твар з газавага балончыка». Супрацоўнікамі міліцыі ў ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства 20 сакавіка быў затрыманы Зміцер Паліенка.

Каментуючы прад'яўленае Паліенку абвінавачванне ў здзяйсненні асабліва злоснага хуліганства, юрыст і праваабаронца Валянцін Стэфановіч адзначае, што праваабаронцы, на жаль, не ведаюць усіх акалічнасцяў таго, што адбылося ў той дзень. «Існуюць дзве версіі падзеяў, — адзначае ён. — Па версіі Зміцра, ён быў вымушаны ўжыць газавы балончык у мэтах самаабароны супраць нецвярозага і агрэсіўнага грамадзяніна, які абражаў і ўдарыў яго. Паводле афіцыйна прад'яўленага абвінавачвання Зміцер, нібыта ў адказ на заўвагу жыхара дома ўжыў у дачыненні да апошняга газавы балончык, здзейсніўшы такім чынам асабліва злоснае хуліганства. Такім чынам, маем два варыянты паводзінаў Зміцра — дапушчальная самаабарона і злоснае хуліганства. Для таго, каб мы паверылі ў версію следства, яно павінна прадставіць нам досыць значныя доказы».

Стэфановіч нагадвае, што Паліенку было прад'яўлена абвінавачванне па факце нібыта нанясення ім графіці «Менты убивают» на адным з будынкаў у Мінску, а таксама за распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці. Абвінавачванне ў распальванні сацыяльнай варожасці выклікае асаблівую цікавасць у праваабаронцаў.

Як стала вядома, распальванне іншай сацыяльнай варожасці, паводле версіі следства, заключаецца ў распальванні варожасці ў дачыненні да такой сацыяльнай групы, як міліцыя. Следства па выніках экспертызы відэароліка, на якім невядомая асоба наносіць графіці «Менты убивают людей» на нейкім будынку, прызнала яго нічым іншым, як распальваючым варожасць у дачыненні да сацыяльнай групы — міліцыі.

«Мы бачылі гэты ролік, ён і зараз даступны ў інтэрнэце. Уся дзея ў роліку адбываецца пад песню «Менты убивают молодых» вядомага аматарам яшчэ савецкага року піцерскага гурта «Телевизор». Напрыканцы роліка з'яўляюцца некалькі забаўных плакацікаў, адзін з якіх з выявай міністра МУС Шуневіча з суправаджаючым яго нецэнзурным заглолўкам, — каменціруе Стэфановіч. — У звязку з гэтым хацелася б адзначыць, што міліцыя не з'яўляецца сацыяльнай групай, як не з'яўляюцца сацыяльнай групай прадстаўнікі іншых дзяржаўных органаў і ўлада ў цэлым. Адпаведна, нельга казаць пра распальванне ў дачыненні да іх варожасці. Такога кшталту кваліфікацыя з'яўляецца непісьменнай, і, акрамя таго, сведчыць пра жаданне ўладаў надаць палітычны кантэкст гэтай крымінальнай справе. Пра што таксама сведчыць і артыкул нейкага Мукавозчыка ў найбуйнейшай дзяржаўнай газеце «Беларусь сегодня», у якім, у парушэнне прынцыпу прэзумпцыі невінаватасці, з Паліенкі лепяць вобраз злачынцы і распавядаюць пра нібыта акалічнасці справы, якія яшчэ не былі даказаныя і ўстаноўленыя судом».

Стэфановіч мяркуе, што ўлады пераследуюць яшчэ і іншую мэту — правесці закрыты суд над Паліенкам, каб прадстаўнікі праваабарончай супольнасці і грамадства не змаглі ацаніць сутнасць справы. А падазрэнні ў тым, што гэтая крымінальная справа можа насіць неабгрунтаваны характар, у праваабаронцаў ёсць.

**Паводле spring96.org**

# Запрашаем да ўдзелу ў Конкурсе імя Аляксея Караля

**Працягваецца прыём матэрыялаў на III Конкурс маладых журналістаў імя Аляксея Караля.**

Віка Чаплева, Алесь Кіркевіч, Дзіяна Пінчук, Мікалай Дзядок, Дзіяна Серадзюк, Алена Ляшкевіч — усе гэтыя ўлюбёныя чытачамі аўтары «Новага Часу» калісьці былі лаўрэатамі конкурсу маладых журналістаў імя Аляксея Караля. А з кімсьці мы і пазнаёміліся дзякуючы конкурсу. Мы заўсёды рады новым імёнам і таму сёлета абвясцілі III Конкурс маладых журналістаў імя Аляксея Караля. Каб прыняць у ім удзел, не абавязкова мець журналісцкую адукацыю ці досвед журналісцкай працы. Патрэбныя толькі жаданне пісаць, валоданне словам і цікавая тэма. Ваш узрост не павінен быць большым за 30 гадоў. Падрабязней пра ўмовы конкурсу — на сайце **novychas.by**.

Матэрыялы прымаюцца да 20 траўня 2019 года. Вынікі конкурсу будуць падведзены 29 траўня 2019 года — у Дзень нараджэння Аляксея Караля.

# Еўрапейскія гульні і «ўсенародная падтрымка»

Яўген КІРЫЛАЎ

**Словы пра «ўсенародную падтрымку» Еўрапейскіх гульняў гучаць надзвычай цынічна. Ці да відовішчаў чалавеку, які выжывае на 350 рублёў?**

«Да нас у гэтыя дні будзе прыкаваная пільная ўвага сусветнай супольнасці. Задача — не толькі правесці гульні на самым высокім узроўні. Мы павінны чарговым разам паказаць, што на нашай зямлі створаныя камфортныя і, што немалаважна, бяспечныя ўмовы для жыцця і самарэалізацыі чалавека», — цытуе прэс-служба кіраўніка дзяржавы яго заяву, зробленую на пасяджэнні Выканкама НАК.

Размова ішла пра гатоўнасць інфраструктуры да правядзення гульняў, а таксама пра тое, што «падтрымка ўсяго беларускага народа, натуральна, будзе забяспечаная».

Калі ўжо з высокай трыбуны гульні, якія павінны ў нас прайсці, абвешчаныя «найважнейшым грамадска-палітычным мерапрыемствам у гісторыі суверэннай Беларусі», дазволім сабе дадаць некалькі рысаў.

Для пачатку адзначым, што пільную ўвагу сусветнай супольнасці ўлады краіны ўжо прыцягнулі. І гэта ніяк не звязана са спортам. Пра знішчэнне крыжоў у Курапатах напісалі сусветныя СМІ, а наступ на ўрочышча працягваецца.

Упішам сюды ж ператрус у офісе тэлеканала «Белсат» і арышты актывістаў, якія абараняюць Курапаты.

Словы пра бяспечныя ўмовы для жыцця разбіваюцца аб чарговую зводку навінаў з Брэста, дзе міліцыя затрымала дзясяткі пратэстоўцаў супраць будаўніцтва акумулятарнага завода, а ў найбольш актыўных «знайшлі» боепрыпасы ў аўто.

Успомнім таксама, як гарадскія ўлады элегантна вырашылі пытанне засялення гасцей гульняў: для гэтых мэтаў каля чатырох тысяч студэнтаў пакідаюць інтэрнаты Студэнцкай вёскі.

І пра ўсенародную падтрымку. Можна не сумнявацца ў тым, што трыбуны спартыўных пляцовак будуць запоўненыя. Гэтая тэхналогія даўно адпрацаваная на хакейных турнірах і лыжных забегах. Вось толькі ці да гульняў зараз беларусам, многія з якіх выжываюць на заробак у 350 рублёў?

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Нешта пайшло не так

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларуска-расійская гандлёвая вайна паціху набірае абароты. Пакуль не чуваць пра спыненне беларускіх нафтаправодаў на планавы рамонт, як патрабаваў Аляксандр Лукашэнка. Але бакі ўжо прамацваюць глебу і выбудоўваюць планы, як яны будуць дзейнічаць у той ці іншай сітуацыі.**



Фота www.правдинформ.рф

Становішча Беларусі пакуль выглядае тут не найлепшым чынам. Нават калі мы спынім нафтаправоды, Расія знойдзе абходныя шляхі. Трывожным званочкам можа быць сітуацыя з расійскім «Газпрамам».

Справа ў тым, што палякі і немцы не ставяцца да Расіі з піетэтам. І таму з 4 па 13 красавіка спынілі на планавы рамонт газаправод «Ямал — Еўропа» (той самы, які праходзіць праз Беларусь). Паколькі газапровод быў спынены на Захадзе, на гэты перыяд павялічыліся пастаўкі газу праз ГТС Украіны — нягледзячы на вайну Расіі і Украіны — перадае РБК. З заканчэннем планавага рамонту пастаўкі газу праз Беларусь у ЕС увайшлі ў ранейшы рэжым.

Фактычна тое азначае, што гэтак жа можа здарыцца і з нафтай. Калі мы спынім на планавы рамонт свае нафтаправоды, знойдуцца абходныя шляхі.

Але і ў нас ёсць свае планы. Як паведамляе БелаПАН са спасылкай на ўласныя крыніцы, Беларусь пралічвае варыянты закупак нерасійскай нафты праз Украіну. Праблема ў тым, што набываць іранскую, казахскую або азербайджанскую нафту занадта дорага менавіта праз лагістыку. Таму, каб апраўдаць больш дарагую лагістыку, Беларусі трэба дамаўляцца пра зніжкі пры закупцы нерасійскай нафты.

Украінская чыгунка ўжо выказала гатоўнасць даваць значную зніжку, калі нафта будзе пастаўляцца ў Беларусь чыгуначным транспартам. Кіраўнік аддзела аналізу і маркетынгавых даследаванняў кампаніі «Refinitiv» Аляксандр Шкурын паведаміў, што дыскont да цаны нафты, які можа прапанаваць Казахстан, верагодна, кампенсаваў бы дадатковыя лагістычныя выдаткі Беларусі на пастаўку нафты праз Украіну.

У Расіі тым часам працягваецца скандал з «шэрым» транзітам з Беларусі. На мінулым тыдні Рассельгаснагляд папрасіў ФСБ і Мінтранс РФ спыніць такі транзіт. Гаворка ішла пра больш за 30 беларускіх кампаній, якія пастаўляюць у Казахстан і Кыргызстан тавары жывёлагадоўлі праз расійскую тэрыторыю. І, нібыта, тая прадукцыя застаецца ў Расіі. Сярод згаданых кампаній было ТАА «Танкверт», і ў Рассельгаснаглядзе лічаць, што яму не выпадкова далі назву, сугучную з прозвішчам кіраўніка ведамства Сяргея Данкверта.

Кіраўнік кампаніі «Танкверт» Юрый Васкрасенскі сказаў, што назва — «супадзенне» і што яго фірма не супраць перайменавацца, а таксама заявіў: прэтэнзіі Рассельгаснагляду неабгрунтаваныя. Прадукцыю, якую Расія забараніла для паставак, кампанія возіць у Казахстан і перагружае ў Маскве. Далей яе вязуць расійскія перавозчыкі. І калі штосьці з Расіі, нібыта, не выязджае — вінаватыя расіяне.

Васкрасенскі пайшоў далей — паскардзіўся на Рассельгаснагляд у Еўразійскую эканамічную камісію і непасрэдна паслу Расіі ў Беларусі Міхаілу Бабічу. Прычым, Бабіча ён папрасіў звольніць Данкверта з займаемай пасады.

Але не толькі гандлёвай вайной з Расіяй жыве краіна. Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў саспелі да рэвалюцыйнага рашэння. Амністыя, якая плануецца да Дня Перамогі, упершыню ў гісторыі можа быць прымененая да нарказлачынцаў, асуджаных па сумна знакамітым артыкуле 328. Дэпутат парламента Пётр Атрошчанка сказаў, што на пасяджэнні камісіі па нацыянальнай бяспецы ўсе 8 яе чальцоў прагаласавалі «за» такое рашэнне. Ініцыятыву станоўча ацанілі і ў МУС. Плануецца, што амністыя закране непаўналетніх і ўпершыню асуджаных па частках 1, 2, 3 артыкула 328.

Пётр Атрошчанка ў свой час узначальваў падраздзяленне па барацьбе з кантрабандай і міжнародным наркабізнесам Магілёўскага абласнога ўпраўлення КДБ. Сёння ён выступае за змякчэнне ніжняй мяжы пакарання па 328 артыкуле, нягледзячы на тое, што МУС катэгарычна супраць гэтай ініцыятывы. «Так, МУС супраць змякчэння пакарання. Але гэта — пазіцыя праваахоўнага ведамства, а ёсць яшчэ, я так скажу, здаровы сэнс. Думаю, бліжэйшым часам папраўка аб змяншэнні мяжы будзе ўнесеная, і пытанне здымуць з парадку дня», — паведаміў Атрошчанка.

Канешне, узнікне іншае пытанне: навошта МУС зняволіў столькі маладзёнаў, што іх зараз трэба амніставаць? Пытанне і да судоў, якія выносілі жорсткія прысуды. Насаджалі столькі, што зараз трэба выпускаць?

Тым часам Еўрапейскія гульні ўсё бліжэй. І нечакана паўстаюць новыя праблемы. 14 красавіка на мінскім стадыёне «Дынама» прайшоў першы ў гэтым сезоне футбольны матч: «Дынама–Мінск» — «Гарадзея». Гледачы са здзіўленнем убачылі, што газон на стадыёне, на які, згодна з тэндарамі, выдаткавалі 432 тысячы еўра, выглядае так, як быццам перад гульнёй на ім пасвіўся статак кароў. Сярод зялёнай травы відаць вялізныя пажухлыя пралысіны.

Газон на адрамантаваным стадыёне «Дынама» прыцягвае да сябе ўвагу не першы раз. Яшчэ падчас рэканструкцыі шмат пытанняў выклікала закупка пакрыцця для поля ў расійскай кампаніі «Крона Спорт» за 432 тысячы еўра. У тэндар было ўнесена некалькі сур'ёзных зменаў, а ў партфоліа ў фірмы-пераможцы апынуліся толькі газоны на трэніровачных арэнах. Аднак дырэктар «Крона Спорт» Аляксей Зайцаў сцвярджаў, што, калі даглядаць поле, яно можа праслужыць восем гадоў.

Але справа ў тым, што стадыён «Дынама» мае свае асаблівасці. Пад газонам — вялікі пласт пяску. З-за гэтага добра працуе дрэнаж: хутка сыходзіць вада, але разам з тым і карэньчыкам травы няма за што ўчапіцца. Па розуме, газон у такім стане — без стабілізуючай сеткі — павінен быў год проста паляжаць, каб сфармаваўся шчыльны верхні пласт і каранёвая сістэма.

Аднак часу на ўмацаванне ў газона няма. Прэм'ер-міністр Сяргей Румас паабяцаў, што ўсе аб'екты да Еўрапейскіх гульняў будуць гатовыя да 15 траўня. Гэта значыць, газон трэба будзе тэрмінова замяніць. Цікава, хто нагрэў рукі на мінулым тэндары?

А між іншым, мы не такія ўжо і багатыя, каб мяняць газон. ВУП Беларусі за І квартал 2019 года склаў 1,1%. Урад у мэтавым праекце макрапрогнозу на 2019 год чакае росту ВУП краіны на ўзроўні 4%. Ці дабяжым да паказчыка?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Тадэвуш Кандрусевіч



**Старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч раскрытыкаваў беларускія ўлады.**

Паводле яго словаў, улады не хочуць спрашчаць умовы дзейнасці замежных святароў у краіне, нягледзячы на шматразовыя просьбы касцёла.

Сёння ў Беларусі каля 500 каталіцкіх святароў, з якіх каля 80 — грамадзяне іншых краін. Згодна з існуючым заканадаўствам, на кожнага замежнага святара трэба мець дазвол упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў на ажыццяўленне рэлігійнай дзейнасці. Акрамя таго, умовы знаходжання святароў-замежнікаў у Беларусі больш жорсткія ў параўнанні са створанымі для звычайных замежных грамадзян.

«У дачыненні да замежных святароў маецца прынятая Саветам міністраў норма, што калі святар два разы здзейсніць грамадскае парушэнне, напрыклад, перавысіць хуткасць руху аўтамабіля, яго могуць выслаць з Беларусі. У той жа час для замежнікаў закон абвяшчае пра адпаведныя наступствы пасля пяці разоў», — сказаў арцыбіскуп.

«Мы падымаем гэтае пытанне вельмі часта, пішам у адміністрацыю кіраўніка дзяржавы, звяртаемся да ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, аднак воз і цяпер там», — кажа каталіцкі іерарх.

## Павел Якубовіч



**На абарону курапацкіх крыжоў стаў былы рэдактар галоўнай афіцыйнай газеты «СБ. Беларусь сегодня».**

У інтэрв'ю «Радыё Свабода» ён раскрытыкаваў знішчэнне крыжоў у Курапатах.

У свой час Павел Якубовіч стварыў грамадскую ініцыятыву па мемарыялізацыі ўрочышча Курапаты. «Я спадзяваўся, што тыя, каму належыць, зразумеюць: трэба раіцца з людзьмі, патрэбны дыялог, дыскусія, але не прыязджаць на аўтакранах і вырываць тое, што зрабілі іншыя. Урэшце, размова ідзе пра такія сакральныя рэчы, як хрысціянскія крыжы. Гэта вельмі інфернальная і важная для свядомасці рэч», — кажа ён.

«Мемарыял павінен быў быць захаваны, усё, што было зроблена грамадскасцю, памятныя знакі, крыжы і многае іншае. Было абяцана, што нічога прыбірацца не будзе, што проста адбудзецца добраўпарадкаванне, і гэтае месца застанецца недатыкальным», — дзеліцца ўспамінамі Якубовіч.

Аднак потым усё пайшло не так. Якубовіч прызнаецца, што загад быў спушчаны з самага верху: "Як у вядомай кнізе пра Швейка, усё ішло добра, пакуль не ўмяшаўся генеральны штаб… І пачаліся звыклы бюракратычны падыход».

«У XXI стагоддзі вырываць крыжы? Такія рэчы абмяркоўваюцца, як мінімум, з кіраўнікамі канфесій, грамадскасцю, вернікамі. Добраўпарадкаванне можна было зрабіць, але без брутальнасці, без крыжалому і без усіх гэтых асаблівасцяў, якія паказваюць трыумф бюракратызму», — крытыкуе ён знос крыжоў у Курапатах.

## Алесь Чумакоў



**Беларускі вакаліст і мультыінструменталіст, удзельнік гурта «Stary Olsa» распачаў збор сродкаў на выданне альбома карчомных ірландскіх песень.**

На плытцы «Праўда ў віне» ірландскія гераічныя песні гучаць у перакладзе на беларускую мову.

«Беларусь і Ірландыя шмат у чым падобныя. У першую чаргу, падобныя сваім мінулым, шляхам да незалежнасці, змаганнем за свабоду, апяваннем у песнях сваіх герояў і гістарычных падзей. Цікавы эфект атрымліваецца, калі ірландскія гераічныя песні перакласці на беларускую мову. Адразу чуецца рамантызм часоў Касцюшкі, згадваюцца нашы паўстанні XIX стагоддзя», — кажа пра ідэю стварэння альбома музыка.

Альбом ужо цалкам запісаны — грошы патрэбныя на яго выданне на кампакт-дысках. Усе аранжыроўкі зробленыя на традыцыйных ірландскіх інструментах. Рэліз «Праўды ў віне» запланаваны на 30 траўня.

Азбука паліталогіі

# Вертыкаль супраць рэспублікі



Сяргей НІКАЛЮК

## Крыжы ў Курапатах — прыклад агульнай справы, заснаванай на салідарнасці дзеля дасягнення людзьмі сваіх інтарэсаў




Днямі я блукаў па YouTube і наткнуўся на выказванне нямецкага філосафа Фрыдрыха Ніцшэ (1844–1900), якое гучала надзвычай сучасна: «Тыя, хто танчыць, здаюцца вар'ятамі тым, хто не чуе музыкі». За сто гадоў гэтая думка не страціла сваёй актуальнасці. Для тых, хто не адчуў сувязі паміж мінулым і сучасным, растлумачу на прыкладзе.

Сярод незалежных беларускіх экспертаў і публіцыстаў хапае аматараў паразважаць пра некампетэнтнасць архітэктараў «дзяржавы для народа». Поўны спіс прэтэнзій заняў бы занадта шмат месца, таму абмяжуюся эканамічным складнікам некампетэнтнасці: у беларускім урадзе — троечнікі, якія ніколі не трымалі ў руках «Эканомікс» Нобелеўскага лаўрэата Пола Самуэльсана.

Сур'ёзная прэтэнзія, пагадзіцеся. Аднак што зрабіць з тым фактам, што бліжэйшым летам троечнікі адзначаць 25-гадовы юбілей сваёй першай перамогі над выдатнікамі? За першай, калі хто забыўся, здарыліся другая, трэцяя, чацвёртая і пятая перамогі. І наперадзе ўсіх нас чакае шостая — сумнявацца ў якой не даводзіцца.

«Тыя, хто танчыць, здаюцца вар'ятамі тым, хто не чуе музыкі». Але ўсё становіцца на свае месцы, варта толькі націснуць на «плэй». Нашы троечнікі танчаць пад музыку ЎЛАДЫ, а калі казаць дакладней, пад музыку ЎТРЫМАННЯ ЎЛАДЫ.

Самуэльсана яны не чыталі — і ў сваім невуцтве былі рацыянальныя. Чым бы ім змог дапамагчы амерыканскі эканаміст са сваімі графікамі і формуламі?

### Узыходзячая зорка

«Дзяржава для народа» была пабудаваная на падмурку свайго савецкага папярэдніка. Гэта ні для каго не з'яўляецца таямніцай. Іншага досведу ў троечнікаў не было. Вось як гэты досвед на расійскім прыкладзе апісвае дырэктар «Лявада-цэнтра», сацыёлаг Леў Гудкоў: «...патэрны савецкай сістэмы прымаюцца не таму, што яны лепшыя, больш эфектыўныя альбо ідэалагічна апраўдваюцца, а таму, што Пуцін і яго асяроддзе пра штосьці іншае і падумаць не маглі. Выкарыстанне ранейшых, звычайных для савецкай сістэмы, практык абумоўлена тым, што прыйшлі да ўлады сілы, не здольныя вылучыць нешта сваё і арыгінальнае, таму яны вымушаныя — у сілу адукацыі, ладу думак, кампетэнцыі, нарэшце, невялікага розуму — звяртацца да таго, што было ў мінулым, да таго, што яны ведаюць дзякуючы сацыялізацыі таго часу, навучанню ў савецкіх школах і ВНУ або службе ў адпаведных органах».

Беларускія троечнікі не толькі не сустрэлі супраціву з боку так званай «большасці», але і былі ёй актыўна падтрыманыя, бо і «большасць» нічога іншага прыдумаць сабе не магла. Такі саюз дазволіў падзеям развівацца «па лініі падзення вады». У выніку савецкая таталітарная сістэма, якая, здавалася б, назаўжды засталася ў мінулым, зноў вярнулася. Яна злёгку «прыпудрыла носік», але захавала сваю сутнасць. Яе галоўная характарыстыка — непадкантрольная грамадству ўлада — і сёння з намі. Пераход ад безальтэрнатыўных выбараў да альтэрнатыўных на практыцы нічога не памяняў.

Для тых, хто цікавіцца навінамі з таталітарнага фронту, рэкамендую ўважліва сачыць за ўзыходзячай зоркай беларускага таталітарызму-лайф, прэс-сакратаром адзінага палітыка (АП) Наталляй Эйсмант. Гэтая маладая жанчына прагрэсуе літаральна на вачах і па ўзроўні афарыстычнасці сваіх выказванняў ужо нічым не саступае шэфу.

Вось як, у прыватнасці, яна абгрунтавала акт вандалізму ў Курапатах: «Усё павінна быць зроблена як мае быць, у адпаведнасці з нашымі звычаямі, рэлігійнымі традыцыямі, згодна з планам. Будзе зроблена ўсё, каб гэтае месца выглядала годна, але без усякай палітыкі».

Адсылка да традыцый — любімы занятак работнікаў ідэалагічнай «вертыкалі». Не здольныя сфармаваць вобраз будучыні, яны ўвесь час звяртаюцца да мінулага, прычым рэдукуюць яго да двух элементаў — Перамогі (абавязкова з вялікай літары) і традыцыяў. Пры гэтым спіс традыцыяў, як правіла, не прыкладаецца. І гэта зразумела, бо сфармаваныя ва ўмовах лакальных сельскіх светаў традыцыі мала чым могуць дапамагчы ў стагоддзе інтэрнэту.

Але няма правілаў без выключэння. Наталля Эйсмант здолела падабраць патрэбнае слова і перакінуць з яго дапамогай масток паміж традыцыямі і постмадэрнам. Слова гэта — «план».

**Адсылка да традыцый — любімы занятак ідэалагічнай «вертыкалі». Не здольныя сфармаваць вобраз будучыні, яны ўвесь час звяртаюцца да мінулага, і рэдукуюць яго да двух элементаў — Перамогі і традыцыяў**

### Уся справа ў страце кантролю

У сучаснай Беларусі зрабіць што-небудзь «як належыць» азначае зрабіць у адпаведнасці з планам. Іншага не дадзена. Самастойны крок налева або направа разглядаецца ў якасці замаху на манаполію АП займацца палітыкай. На такога роду заняткі няма права нават у топ-чыноўнікаў, пра што АП рэгулярна і нагадвае тым, хто з-за непаваротлівасці або непаразумення часам спрабуе апынуцца наперадзе паравознага дыму.

Вернемся да крыжоў. На гэты раз прыгадаем словы АП з «Вялікай размовы»: «Ну навошта вы там павыстаўлялі гэтыя вось белыя крыжы? Вам што, царква дазволіла гэта рабіць? Ну гэта ж дэманстрацыя, а я супраць такой дэманстрацыі».

Лепш і не скажаш. Амаль за тры дзесяцігоддзі існавання сучаснай беларускай дзяржавы тыя, каго паводле непаразумення прынята лічыць палітычнай элітай, нічога не зрабілі для ўшанавання памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Хто ім перашкаджаў? Якога дазволу і ад якой царквы яны чакалі?

Варта было б падзякаваць грамадзянам за праяўленую ініцыятыву. Але замест падзякі — абвінавачванні ў арганізацыі дэманстрацыі. А ў «дзяржаве для народа» любыя дэманстрацыі, калі толькі яны не санкцыянаваныя зверху, — гэта законная нагода для адміністрацыйнага пераследу іх арганізатараў, што на практыцы мы і назіралі.

Можна доўга спрачацца пра прычыны дзяржаўнага вандалізму, і ў кожным меркаванні пры гэтым будзе свая праўда, дакладней, толькі яе часцінка. Напрыклад, на думку галоўнага рэдактара радыёстанцыі «Эхо Москвы» Аляксея Венедзіктава, уся справа ў страце кантролю: «Народны мемарыял, які быў у Курапатах, ён не кантраляваўся, не ствараўся ўладай. Гэта проста людзі прыходзілі і ставілі крыжы. Я абсалютна ўпэўнены, што гаворка ідзе не пра змястоўную частку гэтага памятнага месца, а гаворка ідзе пра кантроль».

Пра страту кантролю ў сваім інтэрв'ю TUT.BY казала і Нобелеўская лаўрэатка Святлана Аляксеевіч.

Рухацца «па лініі падзення вады» здольная любая трэска, а большага і не патрабуецца ад жадаючых утрымаць уладу ў грамадстве, якое прызвычаілася жыць паводле плану, што даводзяцца зверху. «Цяперашняя дзяржава, — тлумачыць расійская журналістка Юлія Латыніна, — не мае на самай справе адзінага мозгу, які ёй кіруе. Яна ў пэўнай ступені не мае мозгу наогул. Ёй, як дыназаўру, мозг замяняюць інстынкты — хапальны, стракальны і абарончы».

### З жыцця макак

Класічны прыклад сацыяльнай структуры, выбудаванай з апорай на інстынкт, — уладная «вертыкаль». Самцы нашых бліжэйшых біялагічных родзічаў, прыматаў, выдатна спраўляюцца з яе ўзвядзеннем, і гэта няглядзячы на тое, што ні адзін з іх не быў абвінавачаны ў чытанні «Эканомікс» Самуэльсана.

Тым не менш нават непрактыкаваны назіральнік здольны без асаблівых складанасцяў адрозніць альфа-самца ад іншых жывёл мужчынскага полу ў малпінай зграі. Каб не быць галаслоўным, працытую доктара біялагічных навук Віктара Дольніка: «Барацьба за дамінаванне шмат значыць у жыцці самцоў макак. Іх дамінанты не маюць патрэбы ў саюзе, таму што ў макак існуе адна вельмі гнюсная інстынктыўная праграма (якая сустракаецца і ў некаторых іншых зграйных жывёл, напрыклад, у сабак). Як толькі дамінант пачне караць аднаго, астатнія імкнуцца яму дапамагаць: крычаць, кідаюцца калам, імкнуцца ткнуць чым-небудзь самі».

Каб была мая воля, я б уключыў прыведзеную вышэй цытату ва ўсе падручнікі па дзяржаўнай ідэалогіі. Любое разважанне пра традыцыйныя каштоўнасці будзе без яе няпоўным, недасканалым, бо няма ў грамадстве Homo sapiens нічога, што па ступені традыцыйнасці магло б параўнацца з уладнай «вертыкаллю».

Яшчэ адзін нюанс. У грамадствах, арганізаваных згодна з вертыкальным прынцыпам, немагчымая рэспубліканская форма дзяржаўнага праўлення. Слова «рэспубліка» ў перакладзе з латыні азначае «супольная справа». Крыжы ў Курапатах і былі прыкладам супольнай справы, заснаванай на салідарнасці дзеля дасягнення людзьмі сваіх інтарэсаў. Сваіх, а не спушчаных зверху!

Але прыватныя інтарэсы, якія выяўляюцца публічна, — гэта прамая пагроза не толькі для альфа-самцоў у зграях макак, але і для ўсіх, хто звязаў сваё жыццё з функцыянаваннем уладных «вертыкаляў».

Каб адчуць такога кшталту пагрозу, зусім не абавязкова валодаць высокім статусам у іерархіі. Для гэтага дастаткова адчуць сябе безабаронным у сучасным дынамічным свеце. А такіх у Беларусі большасць, і родная ўлада працуе не пакладаючы рук над тым, каб гэтая большасць не здолела самаарганізавацца да ўзроўню, які дазваляе заняцца агульнай справай — будаўніцтвам Рэспублікі Беларусь.

# Як выдаліць зуб і застацца жывым

Алена ЦЕРАШКОВА

**«Выдалілі цешчы зуб, а яна праз тыдзень памерла. З іншай прычыны, але сваякі доўга пазіралі скоса». Цяжка адназначна вызначыць, падоўжыла выдаленне зуба цешчы жыццё ці скараціла, але штогод у Беларусі некалькі пацыентаў паміраюць з «зубных» і «калязубных» прычын. Гэты артыкул для тых, хто хоча выдаліць зуб, але застацца жывым.**



## Калі выдаляць зуб

Ідэальны момант для выдалення зуба выглядае так: вы адпачылі, добра пачуваецеся, старыя раны і хваробы маўчаць, вы нікуды не спяшаецеся, цягам наступнага тыдня вас не чакае фотасесія, вяселле, лазня, даклад на асамблеі ААН, узыходжанне на Эверэст, пагружэнне ў Марыянскую ўпадзіну і неўзараны дачны ўчастак. А на руках у вас рэнтгенаўскі здымак вашага героя ў поўны рост разам з суседзямі па зубным шэрагу.

Для жанчын ідэальны момант — калі крытычныя дні нядаўна скончыліся ці бліжэйшым тыднем не пачнуцца.

## Тыповыя памылкі

Варта пазбягаць памылак на перадаперацыйным этапе. А менавіта, не трэба чакаць, пакуль зуб забаліць. Боль сведчыць пра абвастрэнне: інфекцыя сабрала вялікае войска, дачакалася, пакуль аслаблі абарончыя сілы цела, і атакуе. Вы з лейкацытамі ў меншасці. Боль у зубе, якому прысуд вынесены даўно, — гэта ўжо ўскладненне, вы рызыкуеце захварэць усур'ёз і надоўга. Акрамя таго, гэта кепскія ўмовы для анестэзіі.

Не трэба чакаць, і калі боль скончыцца. З 40 ложкаў гнойнай сківічна-тваравай хірургіі 11-й ГКБ сама мала 20 цэлы год запоўнена тымі, у каго само не прайшло. На памяць пра марныя надзеі застаюцца бяззубыя раты і шабельныя шнары на твары. За год 1–2 чалавекі выпісваюцца праз морг.

Адзначым: калі зубны боль дапоўнілі ацёк (асабліва, калі ацёклыя ўчасткі цвёрдыя, чырвоныя і баляць), тэмпература, моцны боль пры глытанні, пры спробе разявіцца, калі кепска рухаецца альбо не змяшчаецца ў рот язык, з'яўляюцца цяжкасці з дыханнем — вашае жыццё пад пагрозай. Што кепска: у асобных выпадках чалавек можа згубіць здольнасць крытычна ацэньваць свой стан; атручэнне арганізма гноем выклікае суб'ектыўную ілюзію паляпшэння. Гэта — інтаксікацыйны дэлірый, трызненне, — і калі вы бачыце такога чалавека, ведайце: ягонае жыццё лічыцца гадзінамі.

Абавязкова папярэдзьце доктара, калі вы маеце праблемы са здароўем, а менавіта: перанеслі інфаркт ці інсульт, хіміятэрапію ці апрамяньванне, маеце дыябет ці эпілепсію, цыроз печані, лейкоз ці гемафілію, арытмію, анеўрызму, цяжарнасць любога тэрміну.

Падкрэслю: мае значэнне, на што вы хварэеце і якімі лекамі ратуецеся. Да прыкладу, рэдкі дзень у нашай лякарні абыходзіцца без таго, каб сціплыя сардэчнікі, якім прызначаны варфарын, не прыязджалі з бледным тварам і поўным ротам крыві. А трэба было папярэдзіць хірурга, здаць аналіз на хуткасць згусання крыві, пры патрэбе — пад наглядам кардыёлага перапыніць прыём варфарыну, знізіць дозу ці замяніць.

Яшчэ адна памылка: не буду есці, каб... (не званітаваць, мець чыстыя зубы, не патыхала з рота).

Голад + смага + страх + лекі + страта крыві = агульная слабасць. Можна страціць каардынацыю ці нават знепрытомнець. А значыць, атрымаць траўму: разбіць твар ці галаву, зламаць сківіцу ці іншую костку, параніцца аб шкло, пабіцца аб пліту, станок — падзенне небяспечнае і ў лекавай установе, і на вуліцы, і ў транспарце, і дома, і на працы.

Страта прытомнасці можа суправаджацца сутаргамі.

Рэальнасць беларуса выглядае так: прамучыцца з хворым зубам некалькі дзён без нармальнай ежы ды сну, на пачках абязбольваючых, пайсці а пятай за талонам на другую змену, адмучыцца палову дня на працы, збегчы ў паліклініку, адседзець чаргу да кабінета, атрымаць накіраванне на рэнтген, адседзець чаргу, дачакацца здымка, адседзець чаргу, перанесці аперацыю і пачуць... Правільна: 2 гадзіны не есці!

Нават калі на зуб не накусіць ад болю — выйсцяў процьма: любыя віды дзіцячага харчавання, канцэнтраваныя булёны ці разведзеныя пюрэ, каларыйныя напоі — смакчыце праз саломінку. Марозіва з'ешце: холад дапаможа часова зменшыць ацёк, цукар ды тлушч падтрымаюць сілы, эндарфіны падымуць настрой (адзінае выключэнне — перад агульным наркозам).

## Дзе выдаляць зуб

Там, дзе вы давяраеце лекару. Добры лекар — не той, хто робіць, як падабаецца вам, а той, хто даступна тлумачыць, што для вас лепей. Выбар лекавай установы і спецыяліста за вамі. Плюс, які цяжка пераацаніць, — магчымасць на месцы зрабіць рэнтген.

Варта ўлічваць: аперацыя выдалення зуба можа запатрабаваць шчыльнага назірання ў пасляаперацыйным перыядзе (удакладніце, за чый кошт будуць перавязкі). Спытайце, ці выдадуць вам лісток непрацаздольнасці (калі для вас тое актуальна).

## «Усыпіце мяне!»

Наркоз — гэта падарожжа на той свет без гарантыі вяртання.

Паказанні: дзеці да 5 гадоў, псіхічна хворыя, алергікі, якім нельга падабраць прэпарат для мясцовай анестэзіі нават пад прыкрыццём гармонаў. Выпадкі, калі аперацыйнае поле вялікае, і такая колькасць ушпіленых лекаў можа быць таксічнай (неабходна некалькі разрэзаў з глыбокім пранікненнем).

Ваш выбар мусіць супасці з выбарам спецыяліста-анестэзіёлага, які адказвае за вашае жыццё. Дантысту, па вялікім рахунку, пляваць, спіце вы ці дрэмлеце. Наркозам ведаюць анестэзіёлагі, але яны могуць толькі перавезці вас на той бок Леты. Вяртацца будзеце з Боскае ласкі (назавіце гэта тэорыяй верагоднасці, таксама ок). Як казаў д'Артаньян, не турбуйцеся, спадарове, назад мы вернемся не ўсе.

Ну, вось вы і ў крэсле. Выдаленню зуба папярэднічае анестэзія. І так павінна быць у кожным разе. Калі ад пацыента патрабуецца гераізм — значыць, у доктара адсутнічае прафесіяналізм.

## Не бярэ анестэзія

Замарозка «не бярэ» з розных прычын. Напрыклад, з-за адсутнасці даверу да канкрэтнага лекара (прычына значэння не мае).

Яшчэ прычына — лекар рэдка практыкуецца ў тэхніцы анестэзіі, таму коле не туды. Сучасныя лекі і шпрыцы дазваляюць рабіць анестэзію каля зуба, пры гэтым рызыка ўскладненняў мінімальная, дый прэпарату трэба менш. Але прыйдзе той пацыент, якому трэба больш глыбокая анестэзія, а яе апошні раз лекар рабіў у студэнцтве... і не сам.

Трэцяя прычына — казуістычная: гэтаму пану гэты лек што вада (насамрэч, нават у наркаманаў анестэзія наступае, хоць успрымаецца не так выразна), альбо гэта — чалавек-амфібія, і нервовыя ствалы ў яго ідуць невядомым фантастычным чынам. Іншых прычын, на маю прафесійную думку, няма. Ёсць адно «але»: усё ж анатомія розніцца, і нават дасведчаны лекар можа з першага разу выключыць толькі частку нервовых стваловў. Але прафесіянал адчувае, як укалоць другі раз, каб не спатрэбіўся трэці — восьмы і г.д.

Анестэзія зубоў наступае не адразу, не імгненна. Чым таўсцейшы нервовы ствол, тым даўжэй. Зверху хутчэй, чым знізу. Спераду — хутчэй, чым ззаду (анатамічныя нюансы). Калі мозг прызвычаіцца, можа з'явіцца адчуванне, што анестэзія заканчвае дзейнічаць. Сучасныя прэпараты выключаюць нервы на некалькі гадзін.

Анестэзія выключае не ўсю адчувальнасць, а боль. Як правіла, вы адчуваеце дотык, ціск. Не прымайце гэта за боль: вы прысутнічаеце на аперацыі, мозг, які атрымлівае скажоную інфармацыю, злёгку панікуе і спрабуе вытлумачыць карціну на свой лад. Нехта можа літаральна не адчуваць, ці ёсць у яго вусны, але, дакрануўшыся языком, спалохацца: я ўсё адчуваю! Гэта натуральна: язык жа не адмарожаны.

Існуюць канкрэтныя крытэры наступлення канкрэтнай анестэзіі, яны залежаць ад таго, які нерв выключаецца. Калі вам абязбалілі верхні зуб, не чакайце, што занямее язык, як у суседа, якому абязбалілі ніжні зуб. Увогуле, не прымярайце на сябе суседскую скуру. Пры абязбольванні ніжніх задніх і бакавых зубоў у вас можа з'явіцца здранцвенне, адчуванне «мурашак» і г.д. на баку анестэзіі: у палове ніжняй губы, вобласці кута рота, шчацэ, зубах і дзяснах, кончыку ці краёчку языка. Гэта класіка.

Бонусам у асобных шчаслівчыкаў ідзе: здранцвенне вушной ракавіны, сценкі глоткі, вока — аж да немагчымасці заплюшчыцца. Гэта варыянты нормы, усё пройдзе разам з анестэзіяй. Здараецца такое і пры абязбольванні верхніх зубоў мудрасці.

Фразу «дзве гадзіны не есці», да сэнсу якой я буду вяртацца ніжэй, трэба ўспрымаць так: «2 гадзіны не есці, і нават даўжэй, пакуль не адновіцца адчувальнасць у роце». Інакш вы рызыкуеце сябе моцна ўкусіць, бываюць глыбокія раны.

У рэдкіх выпадках боль усё ж адчуваецца, як правіла, калі зуб балеў працяглы час. Гэта хімія: кіслы асяродак запалення не спрыяе працы анестэтыку. Скажыце лекару, у які момант вам баліць. Калі можна нешта з гэтым зрабіць, ён зробіць.

У тых, хто панікуе, анестэзія як след возьмецца на аўтобусным прыпынку па дарозе дамоў. Яно вам трэба? Значыць, не панікуйце.

Не думайце, што для выдалення зуба патрэбна сіла. З таго моманту, як з'явіліся хірургічныя стаматалагічныя прылады, хірургу-стаматолагу патрэбная толькі сіла волі, астатняе вырашае тэхніка і кантакт з пацыентам.

Веданне анатоміі плюс адчуванне фізікі працэсу, плюс кантакт з пацыентам ёсць выдаленне зуба.

Калі любы са складнікаў заменіць на фізічную сілу, сума зменіцца ці на «траўматычнае выдаленне зуба з наступствамі» альбо на «выдаленне зуба іншым хірургам», як пашанцуе.

## Ускладненні сталіся ў кустах

Дапусцім, вы ўсё яшчэ жывыя. Не расслабляйцеся: цешча цэлы тыдзень думала, што жывая. У параўнальна здаровых людзей могуць быць два пасляаперацыйныя ўскладненні: інфекцыя на маршы і кровацячэнне.

Не, вам не «занеслі інфекцыю». Вы з гэтай інфекцыяй жывяце з той секунды, як ваша маці ўпершыню аблізала вашую дунду. Проста маніфестуе інфекцыя не круглыя суткі, а пры зручным выпадку. Выдалены зуб нічога не гарантуе. Пакінуты хворы зуб гарантуе пагаршэнне. Такі расклад.

Самае бяскрыўднае ўскладненне — пустая лунка. Ідэальны варыянт — лунка пасля выдалення запоўнілася крывёй, кроў згусцілася ў жоўценькі фібрын — найлепшая біялагічная павязка, пад якой усё зажывае быццам на сабаку.

Парады дзве гадзіны не есці, рот не паласкаць, зубы не чысціць, не перанапружвацца, у лазню не хадзіць, цяжкое не падымаць і г.д. скіраваныя на захаванне фібрынавай плёнкі і папярэджанне кровацячэння.

Існуюць антыбіётыкі ды антысептыкі, тут проста слухайце лекара.

Гэта што тычыцца інфекцыі.

Разбяром прычыны кровацячэння з лункі выдаленага зуба. Гэта: падвышэнне артэрыяльнага ціску (АЦ); парушэнне сістэмы згусання крыві, глабальнае (хваробы ці лекі — ХЛ); лакальнае (механічнае пашкоджанне згустку — МП); пашырэнне сасудаў (ПС).

Фізічная нагрузка = АЦ. Гарачы душ, лазня = ПС. Стрэс = АЦ. Паласканне, чыстка зубоў = МП.

Залезлі ў лунку языком ці пальцам = МП. Выпілі аспірын ці цытрамон — ХЛ. Прынялі алкаголь = ПС.

Гарачая ежа ці пітво = ПС. Пад'елі, не счакаўшы дзве гадзіны, = МП.

Перачытайце абзац пра ідэальны момант для выдалення зуба. Усё вельмі проста, праўда?



**Пра аўтара:**
Алена Церашкова — сківічна-тваравы хірург з амаль 20-гадовым стажам. Час ад часу яна будзе дзяліцца актуальнай інфармацыяй, датычнай стаматалагічнага здароўя, траўмаў і запалення сківічна-тваравай вобласці.


Суседзі — Алесь Дудар і Уладзіслаў Галубок

**У гэтым доме была букіністычная крама «Дешевая книга», дзе маладыя пісьменнікі пакідалі значную частку сваіх заробкаў**



# Ім было што сказаць

## Менск, які памятае рэпрэсаваных пісьменнікаў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Беларускую літаратуру 1920–1930-х гадоў стваралі хлопцы, чые таленты ўжо тады па сваёй моцы абяцалі зрабіць рэвалюцыю ў літаратурным працэсе. Але маладыя пісьменнікі, якія так прагнулі жыць і ствараць новую, беларускую Беларусь, трапілі пад рэпрэсіўны станок. Разам з літаратуразнаўцай, настаўніцай і пісьменніцай Ганнай Севярынец падчас «Фэсту экскурсаводаў» мы прайшліся сцежкамі яе рамана «Гасцініца “Бельгія”» і дакрануліся да лёсаў яго герояў — беларускіх літаратараў-маладнякоўцаў.**

«Гасцініца “Бельгія”» — кніга, якой нам усім так не хапала. У ёй аўтарка карпатліва сабрала па дробках выцягнутыя з архіваў і ўспамінаў звесткі пра пляяду пісьменнікаў, якія за 10–15 гадоў змаглі б кардынальна змяніць аблічча беларускай літаратуры, калі б не трапілі ў жорны Вялікага тэрору.

Але гэта не проста архіўныя звесткі, пра якія не пішуць у нашых школьных падручніках. Са старонак рамана перад намі паўстаюць доўгі, імпульсіўны Шурка Дайлідовіч, ганарлівы волат Уладзь Дубоўка, рахманы Валька Маракоў і іншыя — жывыя людзі са сваімі эмоцыямі, характарамі, звычкамі, каханнямі, драмамі... Таму і кніга атрымалася, нягледзячы ні на што, — пра жыццё. А яшчэ раман зусім нечакана паказвае Мінск такім, якім ён быў у 1920–1930-х з яго назвамі, будынкамі, пахамі, колерамі, гукамі і фактурай.

### Літаратура горада, а не вёскі

Для Ганны Севярынец яе «Бельгія» пачынаецца ля колішняга мінскага прадмесця Добрыя Мыслі, у раёне вуліцы Маскоўскай. Непадалёк віраваў Суражскі рынак, куды хадзілі жыхары бліжэйшых вуліц — у тым ліку і Праваднай, дзе жыў Аляксандр Дайлідовіч — паэт, празаік і перакладчык Алесь Дудар, — і куды бегалі прыкупіць такой-сякой смакатэчы да лошыцкага віна маладнякоўцы. Хоць вонкава шмат што змянілася, але тут усё яшчэ можна адчуць атмасферу, у якой пачыналася маладая, яркая, амбітная беларуская літаратура, якую цягам наступных дзесяцігоддзяў карчавалі з нашых бібліятэк і з нашай памяці.

Калі мы зайшлі за рог Дому быту, пабачылі будыніну колішняга фармхімзавода, узведзенага ў 1929 годзе. Тут вырабляліся першыя ў Мінску медпрэпараты. Па гудку гэтага завода жыхары навакольных вуліц прачыналіся, дзеці ішлі ў школы.

— Самым цікавым для дзяцей былі пляшачкі, у якія налівалі валяр'янку, лавандавыя кроплі. Сюды бегалі дзяўчаты, і кожная збірала сваю калекцыю такіх маленькіх каляровых пляшачак, — распавядае Ганна Севярынец.

Гэтае месца было далёка не цэнтрам горада ў 1920–1930-х гадах. Тут было шмат прыватнай забудовы, дзе жылі пераважна чыгуначнікі, а ў навакольлях цяперашняга Універсітэта культуры ляжала Францысканскае балота — там бавіла час хлапечая частка насельніцтва Праваднай.


Ганна Севярынец

*«Вуліца Правадная выцягнулася стромкай стужкай уздоўж рэек тэхнічнай веткі, што злучае Лібава-Роменскую і Маскоўска-Брэсцкую чыгункі. Гэта самая мінская ўскраіна: цераз вуліцу Маскоўскую — Уборкі і лес. Затое праскочыў Лібава-Роменскую — і ты ў цэнтры, дзесяць хвілін, калі не надта спяшацца, да Захар'еўскай», — апісвае аўтарка вуліцу ў рамане.*

Сёння трапіць на колішнюю Правадную немагчыма — на яе месцы цяпер дэпо метрапалітэна. Таму мы ідзем уздоўж яе па вуліцы Фабрыцыуса, якая так завецца з канца 1920-х у гонар Яна Фабрыцыуса, што камандаваў дывізіяй, якая вызваляла Мінск ад палякаў. Як і цяпер, у тыя часы вуліца выглядала досыць неўладкаванай, зняміўся хіба што характар забудовы, якая напачатку мінулага стагоддзя складалася з прыватных дамкоў, прысадаў і агародаў.

Чыгуначнікі, якія засялялі Правадную, былі працоўнай элітай горада і жылі адносна заможна, маглі арандаваць кватэры. У «Гасцініцы “Бельгія”» неаднаразова падкрэсліваецца, што Алесь Дудар быў гадаванцам горада і вёску не любіў. Увогуле, насуперак шматлікім міфам, маладая беларуская літаратура, якая нараджалася ў той час, шмат у чым была гарадской. І хлопцы з гарадскіх ускраінаў, якія яе стваралі, марылі, каб старасвецкі Менск быў зруйнаваны, і на яго месцы вырас сапраўдны «Горад Сонца».

Адметна, што імёнамі адразу трох жыхароў Праваднай названыя вуліцы ў сучасным Мінску. Гэта імёны Ісая Казінца, які ў час вайны кіраваў падполлем на фармзаводзе, Уладзіслава Галубка — першага беларускага рэжысёра-самародка, вандроўніка і тэатрала, і пісьменніка Алеся Дудара, чыя вуліца ў хуткім часе з'явіцца ў Лошыцы. Двое з іх — Галубок і Дудар — былі суседзямі і жылі на Праваднай у доме №15А. Галубок узяў Дудара ў склад свайго вандроўнага тэатра, разам яны паўтара года ездзілі па ўсёй Беларусі. У гэтым жа тэатры гралі Міхась Чарот і Міхась Зарэцкі, і менавіта адтуль яны, маючы рускамоўную адукацыю, скіравалі сваю творчасць і жыццё да Беларусі.

Сям'я Дайлідовічаў здымала тры пакоі ў доме, і асобны пакой быў у Шуркі. Пазней сюды на сяброўскія пагулянкі і спрэчкі набіваліся дзясяткі літаратараў. Броўку, Глебку, Чарота, Зарэцкага — усіх пісьменнікаў, якіх мы цяпер вывучаем па падручніках, сям'я Дудара ведала як сваіх родных. На Праваднай часам трымалі Міхася Чарота, каб ён не паспеў «зарубіць» публікацыі ў «Савецкай Беларусі». Тут жа маладыя паэты сустракаліся з наркамам земляробства Прышчэпавым. Тут зазнаў усе свае арышты Алесь Дудар.

### «Было адчуванне, што яшчэ крышачку — і мы пачнём жыць па-новаму»

Ідучы па Фабрыцыуса, Ганна Севярынец распавядае, што ў гэтым раёне паўставала досыць шмат прадпрыемстваў: апроч фармхімзавода былі тут і шкляны завод, і малочны, з'яўленне якіх месцічы дужа віталі, бо гэта была пазнака новага жыцця.

— Чаму людзі ў той час не заўважалі ні расстрэлаў, ні арыштантаў на вуліцах? Таму што адначасова ўся прастора вакол іх імкліва мянялася да лепшага. Паўставалі заводы і фабрыкі, знаходзілася праца. Калі абвясцілі НЭП, людзі пачалі багацець. Сапраўды, было адчуванне, што яшчэ крышачку — і мы пачнём жыць па-новаму.

Тым часам выныраем з Фабрыцыуса на Маскоўскую, і бачым жоўтага колеру дом, пабудаваны напачатку 1930-х. Насупраць яго жыў пісьменнік Платон Галавач, з якім Дудар не надта сябраваў, але з якім яны былі расстраляныя ў адну ноч. У адрозненне ад Дудара, якога спачатку не прымалі ў камсамол, а потым выключылі за пропускі сходаў і няссплату ўнёскаў, Галавач быў зацятым і шчырым камсамольскім работнікам. Як мы цяпер ведаем, гэта не выратавала яго ад пражэрлівай пашчы рэпрэсіўнай машыны.

Тут жа поруч, у дварах, адзін час была турма, дзе ўтрымлівалі палонных падчас польскай акупацыі. Некаторы час тут у знявoленні правяла Паўліна Мяд-


Акурат за будынкам УУС стаяў дом, у якім жылі Дайлідовічы


За спінамі экскурсантаў некалі стаяў Дом пісьменніка


Тут нейкі час размяшчалася рэдакцыя часопіса «Штэрн», які згадваецца ў рамане

зёлка. Трэба было мець вельмі моцны малады запал і веру ў будучыню, каб не заўважаць усяго гэтага, кажа Ганна Севярынец. Бо старэйшае пакаленне — Купала, Колас — зусім па-іншаму глядзелі на рэчаіснасць.

## Калі словы набываюць моц

Заходні мост, пад які нырае Маскоўская, для Дудара, на думку Ганны Севярынец, быў псіхалагічнай мяжой паміж домам і горадам. Цяпер адсюль разыходзяцца дарогі на плошчу Мяснікова, вуліцы Савецкую і Бабруйскую. А ў часы Дудара з-пад мосту можна было трапіць на Падгорную (цяпер Карла Маркса), якая выводзіла да элітнай гімназіі Фальковіча і Зубакіна (там цяпер гістфак БДУ), дзе вучыўся паэт. Калі пайсці проста па былой Новамаскоўскай, яна прывяла б акурат да «Маладняка». Мы ж рушылі па Савецкай, якая амаль сто гадоў таму вывела б нас наўпрост да гасцініцы «Бельгія».

Пакуль ідзем, аўтарка рамана распавядае пра характар свайго галоўнага героя. Напрыклад, ад маці Вольгі Іванаўны Алесь Дудар узяў у спадчыну цвёрдасць і ўпартасць. Ад бацькі к паэту дасталіся эмацыйнасць і чуласць. А яшчэ Дудар увесь час міргаў — у яго быў такі нервовы цік. Міхась Зарэцкі вывеў Дудара ў асобе героя свайго рамана «Крывічы» (той раман немагчыма знайсці, ён быў забаронены і ў Менску разам з першым томам Купалы пушчаны на абгорткі — у крамах у яго аркушы заварочвалі селядцоў). Прозвішча героя таго рамана было Ліпен — таму што ён лыпаў вачыма.

Адкуль такая нервовая рэакцыя ў Дудара — можна толькі гадаць. Мо праз матчыну строгасць, а мо праз жахі, пабачаныя ў дзяцінстве, калі, ратуючыся ад Першай сусветнай, сям'я ехала 12 дзён на цягніку, і ў вагонах наўпрост з-пад дзяцей даставалі памерлых. У той час было багата падзей, якія пакідалі адбіткі на свядомасці і надавалі асаблівую вагу словам гэтых юнакоў, якія прыйшлі ў літаратуру ў 16, 17, 18 гадоў. Ужо ў такім узросце ім было што сказаць, і дзякуючы гэтаму тагачасная беларуская літаратура набыла сваю моц.

## Паэты і палітыкі

Уласна гасцініца «Бельгія» стаяла на месцы цяперашняга Дома ўраду. Яе выявы даследчыкі пакуль не знайшлі. Вядома, што гэта быў прыватны драўляны дом на каменным падмурку, дзе ў свой час быў і зубны кабінет, і здаваліся кватэры, і жылі афіцэры НКУС. У сярэдзіне 1920-х гадоў гаспадар спрабаваў уладкаваць тут гасцініцу. Гэта было зручна, бо поруч знаходзіўся чыгуначны вакзал, з іншага боку — цэнтр, і кошты тут былі не самыя дарагія.

У лістападзе 1925 года ў «Бельгіі» вырашылі пасяліць дэлегатаў з'езду «Маладняка». Гэтае літаб'яднанне было досыць моцным: у 1923–1925 гадах яно налічвала 500 сяброў, яго філіі былі ў многіх беларускіх гарадах. Пра амбіцыі і энергію «Маладняка» і маладнякоўцаў сведчыць хаця б такі эпізод: Паўлюк Шукайла і Янка Відук (Скрыган) прыехалі на з'езд, і з вакзала, каб даехаць да «Бельгіі», нанялі сабе фаэтон. Можна сабе ўявіць, з якім форсам яны ехалі — паэты!

— «Бельгія» была знесеная падчас пабудовы Дома ўраду. І гэта метафара, якую прыдумвала сама гісторыя. Гмах у 1930-х будаваўся як сімвал непарушнай, нязменнай улады, і Мінск, які ўяўлялі як «Горад Сонца», стаў пераўтварацца ў горад гэтых шэрых гмахаў, якія расціскалі тое маладое, кіпучае, прыгожае, што грэла хлопцаў у 1920-х, — кажа Ганна Севярынец.

Хвалі новых паэтаў у «Маладняку» змянялі адна адну вельмі хутка: літаральна праз паўгода вырастала новае пакаленне. З часам у складзе аб'яднання адбыліся і ідэалагічныя разыходжанні. Тыя, каму важна было захоўваць маладую кіпучую энергію ў літаратурным працэсе, засталіся ў «Маладняку». Тыя, хто хацеў пераасэнсоўваць мастацтва і данесці сваё бачанне, у 1926 годзе стварылі «Узвышша». Тыя, для каго былі важныя кар'ера і сацыяльныя статусы, карысталіся і першым, і другім.

У Беларусі паэты не абмяжоўвалі свае зносіны выключна літаратурным колам. Да іх прыходзілі дзяржаўныя чыноўнікі рознага рангу, у тым ліку і тыя, хто займаў у рэспубліцы вышэйшыя пасады. Гэта адзначыў у справаздачы паводле працы сваёй камісіі Затонскі (ён даследаваў правядзенне нацыянальнай палітыкі ў БССР, і яго высновы сталі падставай для абвінавачванняў беларускіх дзеячаў напрыканцы 1920-х). Затонскі пісаў, што ў БССР склалася нездаровае становішча: вельмі шчыльна паміж сабой стасуюцца органы дзяржаўнай улады і літаратары, і часам палітычныя рашэнні не прымаюцца, пакуль не будуць абмеркаваныя з паэтамі і пісьменнікамі.

## Слёзы пісьменнікаў

Многія наракаюць, што беларуская літаратура слабейшая за тую ж рускую, што ў нас няма сваіх «Вайны і міру», беларускія літаратары пачатку мінулага стагоддзя — увогуле неадукаваныя, а вершы беларускіх паэтаў і блізка непадобныя да творчасці Блока і Брусава. Але Ганна Севярынец перакананая: папросту сама наша літаратура ў той час яшчэ не дарасла, не прайшла свой шлях па гістарычных прычынах.

— Кожны з іх (беларускіх пісьменнікаў 1920–1930-х. — НЧ.) па моцы сваёй быў творцам не горшым за тых жа Блока і Брусава, і гэта даказваюць іх пераклады рускіх, украінскіх, нямецкіх, польскіх паэтаў. Пераклады 1920–1930-х гадоў часцяком падаюцца мне лепшымі за сённяшнія, бо тады ў людзей за словам стаяла вага, гэта была не гульня ў рыфму, а праца з сэнсамі, — кажа літаратуразнаўца. — А самі гэтыя хлопцы ўвесь час самаадукоўваліся. Бібліятэка Дудара і сёння налічвае больш за 1000 тамоў — гэта калі ўлічыць, што прайшлі тры вобшукі, нямецкая акупацыя і галодныя савецкія часы.

Тым часам мы даходзім да колішняй вуліцы Багадзельнай, якая з 1920-х гадоў завецца Камсамольскай. Гэтая вуліца займала адно з цэнтральных месцаў у жыцці маладых беларускіх літаратараў. Калі стаць тварам да помніка Дзяржынскаму, то злева будзе дом, на месцы якога ў даваенныя часы стаяў Дом пісьменніка. З ім звязана шмат гісторый, і адна з іх — драматычная. Унізе тут была сталоўка, дзе аднойчы выпівалі Дудар, Віцьбіч і Маракоў. А наверсе ў зале пасяджэнняў у той час ішло абмеркаванне сталінскай канстытуцыі і гучалі воклічы пра светлую будучыню. І раптам з вуліцы зайшоў Купала, але пайшоў не ў залу пасяджэнняў, а ў сталоўку.

**«Бельгія» была знесеная падчас пабудовы Дома ўраду. Гэта метафара, якую прыдумвала сама гісторыя. Гмах у 1930-х будаваўся як сімвал нязменнай улады, і Мінск, які ўяўлялі як «Горад Сонца», стаў пераўтварацца ў горад шэрых гмахаў, якія расціскалі маладое, кіпучае, прыгожае**

— Уявіце сабе, які гэта сам па сабе выклік: пяць унізе, калі ўверсе ідзе пасяджэнне, — звяртае ўвагу Ганна Севярынец. — Купала крыху пасядзеў з хлопцамі, і Віцьбіч папрасіў яго пачытаць нешта новае. І Купала пачаў чытаць «Над ракой Арэсай» — вершы выключна сацыялістычныя. Прачытаў і спытаў: «Ну як вам?» І хлопцы апусцілі вочы. І ён кажа: «Дзякуй вам, хлопцы. Бо ім там, наверсе, падабаецца». А калі сыходзіў, павярнуўся і на памяць прачытаў верш Дудара, і той ад нечаканасці заплакаў.

Увогуле, Дом пісьменніка бачыў шмат пісьменніцкіх слёз. Узгадваюць, як Валер Маракоў паваліўся там на канапу і плакаў, кажучы, што лепей пайсці кінуцца пад трамвай ці самому здацца ў НКУС, чым чакаць, пакуль па яго прыйдуць. Яго нашчадак Леанід Маракоў прыводзіць лічбу, што з 2000 рэпрэсаваных па ўсім СССР пісьменнікаў было 500 беларускіх. Ужо ў той час вуліца Камсамольская паступова абрасла будынкамі, у сценах якіх многія з беларускіх інтэлігентаў пачатку мінулага стагоддзя зазналі катаванні.

Але было тут і месца для радасці. Унізе па Камсамольскай, дзесьці за сучасным будынкам МУС, стаяў клуб КІМ — камуністычны інтэрнацыянал моладзі, — дзе быў абвешчаны «Маладняк». Сам жа, як мы сказалі б цяпер, офіс літаб'яднання месціўся ў будынку па вуліцы Рэвалюцыйнай, 15 — цяпер тут размяшчаецца Амбасада Швецыі. Гэта быў адзін з будынкаў, якія належалі Інбелкульту, і для «Маладняка» тут вылучылі пакойчык. Адначасова ў ім была і рэдакцыя аднайменнага часопісу, і месца сходаў. Адсюль, з гэтага пакойчыка, пачынаўся ўвесь літаратурны працэс маладой Беларусі. І сёння можна толькі марыць пра тое, якім бы ён мог быць, каб не адна ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года.

**Фота аўтаркі**


Дом ураду паўстаў на месцы гасцініцы «Бельгія»


На шляху з Праваднай у горад


У гэтым доме размяшчалася радыё, дзе пісьменнікі чыталі свае творы

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Галоўная пагроза клімату

Даследчыкі ўніверсітэта штата Ілінойс паставілі перад сабой незвычайную задачу па пошуку этнасу або расы, якая найбольш негатыўна ўплывае на атмасферу планеты. Выснова гучыць наступным чынам: «Звычкі белых амерыканцаў маюць самы высокі ўплыў на выкіды парніковых газаў на фоне іншых дэмаграфічных груп. Перш за ўсё таму, што белыя янкі ўжываюць такія прадукты, як бульба, ялавічына, яблыкі і малако. Вытворчасць гэтых прадуктаў спрыяе выкідам CO2. Затое дыета афраамерыканцаў або жыхароў Лацінскай Амерыкі значна больш экалагічная, паколькі тыя часцей ядуць садавіну. Як вынік, сярэднія выкіды вуглякіслага газу для белых складаюць 680 кілаграмаў на чалавека на год. Для лацінаамерыканцаў гэта 640, а для афраамерыканцаў — 600 кілаграмаў. Як адзначаюць аўтары дакладу, «хаця розніца не падаецца такой вялікай, таму што гэтыя лічбы толькі на душу насельніцтва, белыя амерыканцы праз свой рацыён нясуць асноўную адказнасць за парніковы эфект».

**Паводле амерыканскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Ліліт выйшла на трыбуну



Уся Арменія абмяркоўвае выступ трансгендарнай жанчыны ў парламенце. Ліліт Мартырасян, якая яшчэ нядаўна па пашпарце мела мужчынскае імя Вагаршак, выйшла на трыбуну, каб заклікаць прыняць захады, накіраваныя на дасягненне гендарнай роўнасці. Відавочна, што выступ павінен быў засведчыць пераход Арменіі на еўрапейскія каштоўнасці. Аднак грамадскасць, падаецца, такога фокусу не зразумела. Выступ Ліліт выклікаў гнеў некаторых заканадаўцаў. Напрыклад, кіраўнік другой па велічыні парламенцкай фракцыі ад партыі «Квітнеючая Арменія» ацаніў сексуальныя асаблівасці Мартырасян як загану, якую трэба хаваць. Адначасова перад будынкам парламента сабраўся натоўп, у тым ліку значная колькасць рэлігійных дзеячаў. Некаторыя з пратэстоўцаў нават заклікалі асвяціць залы парламента пасля выступу трансгендара. Маркуючы па ўсім, кансерватыўныя забабоны сапраўды вельмі моцныя ў Арменіі. Інакш бы кіруючы ў краіне праеўрапейскі ўрад Нікола Пашыняна не дыстанцыяваўся ад сітуацыі. Больш за тое, Пашынян адзначыў, што Вагаршак стаў Ліліт пры ранейшым рэжыме, і ён як бы тут не пры чым.

**Паводле армянскай прэсы**

### РАСІЯ. Лавамі супраць Пуціна

У Расіі ў верасні пройдуць у тым ліку і муніцыпальныя выбары. Паколькі рэйтынг урадавай партыі «Адзіная Расія» — не вельмі высокі, антыпуцінская апазіцыя марыць даць ёй сур'ёзны бой. Адначасова ідуць дэбаты наконт фармату і канцэпцыі выбарчай кампаніі. Найбольш незвычайную тактыку, падаецца, абралі ў піцерскім філіяле партыі «Яблоко». Там вылучаюць кандыдатаў, якія гатовыя гаварыць толькі пра канкрэтныя праблемы таго ці іншага раёна, і перш за ўсё пра... лавы. Дэмакраты прэзентавалі праект «Лавы Пецярбурга». Яго мэта — прыцягнуць выбаршчыкаў за кошт ідэі пра тое, што «лаваў на вуліцы павінна быць шмат». Адначасова збіраюцца грошы на тое, каб ставіць лавы за кошт грамадскасці. Ідэя пра лавы трошкі ўразіла калегаў па апазіцыі. Аляксей Навальны лічыць, што кампанія павінна мець выключна палітычны характар. Між тым, складаецца ўражанне, што ўлада сапраўды баіцца лаваў. Інакш бы ў сецыве не з'явіўся фэйкавы аналаг старонкі кампаніі.

**Паводле расійскай прэсы**

### КНДР. Аднаўленне публічных пакаранняў

Як сцвярджае польская прэса са спасылкай на выданне «Свабодная Азія», днямі ў адным з гарадоў Паўночнай Карэі на вачах дзвюхтысячнай аўдыторыі былі забітыя дзве жанчыны. Іх віна палягала ў тым, што яны, быццам, займаліся «антысацыялістычнай працай», што цягне на вышэйшую меру пакарання. Калі верыць СМІ, неабходнасць аднаўлення публічных пакаранняў улады Пхеньяна тлумачаць тым, што такія захады пазітыўна ўплываюць на калектыўную мараль. Між тым, каментатары не выключаюць, што публічныя пакаранні вярнуліся, паколькі жыццё ў КНДР дастаткова шэрае, і для шматлікіх карэйцаў гэта нейкая форма атракцыёну. Звычайна справу тых, каму пагражае публічнае смяротнае пакаранне, абмяркоўваюць у мясцовых працоўных калектывах. Як вынік, працэдура пакарання збірае вялікі натоўп назіральнікаў, якія на нейкі час забываюцца пра эканамічныя праблемы.

**Паводле польскай прэсы**




Фота www.uncle-z.club

# Чырвонаармеец Адольф Гітлер

Алег НОВІКАЎ

**Германія адзначае сотую гадавіну стварэння Баварскай савецкай рэспублікі, у часы якой, як высвятляецца зараз, і пачалася палітычная кар'ера Адольфа Гітлера.**

Сёння словы «Баварыя» і «рэвалюцыя» гучаць як антонімы. Пасля вайны зямлёй Баварыя кіруюць выключна правацэнтрысты, а сам тыпаж баварца даўно стаў сімвалам нямецкага кансерватызму і клерыкалізму. Між тым, сто гадоў таму менавіта ў Мюнхене біўся пульс рэвалюцыі ў Заходняй Еўропе. 13 красавіка 1919 года, скарыстаўшыся вакуумам улады, левыя сацыял-дэмакраты, камуністы і анархісты пры падтрымцы мясцовага гарнізону абвясцілі Баварыю савецкай рэспублікай.

Савецкая Баварыя была ўнікальным праектам, паколькі яе ўрадам кіравала паэтычная багема. Яе фармальным кіраўніком быў паэт-экспрэсіяніст Эрнст Толер. З іншага боку, разгарнуцца паэтам не далі. Хутка з Берліну прыйшлі эшалоны з Freikorps — лаяльнымі ўраду добраахвотнымі мілітарнымі часткамі, якія да пачатку траўня зачысцілі Мюнхен ад чырвоных. Пры гэтым рэшткі супраціву былі задушаныя з паказальнай жорсткасцю. Калі рэвалюцыйны трыбунал Саветаў за ўвесь час існавання не вынес ніводнага смяротнага прысуду, то Freikorps літаральна заваліў вуліцы трупамі. Толькі ў Мюнхене былі забітыя каля тысячы чалавек, у большасці цывільныя. «Карнавал закончаны», — рапартаваў у сталіцу міністр абароны.

У завіруху апісаных падзей трапіў і 30-гадовы жаўнер 2-га пяхотнага палка Адольф Гітлер. Прычым на хвалі рэвалюцыі ён нават зрабіў невялікую кар'еру. Прыкладна два гады таму гісторыкі знайшлі дакумент, паводле якога 19 красавіка 1919 года Адольф Гітлер быў абраны сябрам салдацкага савета батальёну.

Прычым абіралі Гітлера ў савет менавіта як свядомага камуніста. Напярэдадні, 15 красавіка, мясцовая «контра» намагалася зрынуць уладу Саветаў, аднак полк Гітлера стаў на абарону рэвалюцыі. Па слядах путчу камуністы абвясцілі перавыбары салдацкіх Саветаў, каб нашпігаваць іх сваімі прыхільнікамі. На тагачасныя левыя забабоны Гітлера ўказвае і яго ўдзел у пахаванні Курта Эйснера — першага прэм'ер-міністра Баварыі, якога ў лютым 1919-га за пацыфісцкія заклікі забіў манархіст. Гітлера не бянтэжыла яўрэйскае паходжанне нябожчыка, хаця пазней у «Mein Kampf» ён катэгарычна напіша, што яшчэ ў 1908 годзе стаў жудасным антысемітам.

Дарэчы пра «Mein Kampf». У любой таталітарнай краіне біяграфія яе правадыра павінна быць ідэальнай. Гэта тычылася і кіраўніка Трэцяга Рэйху, мюнхенскі этап жыцця якога выклікаў шмат пытанняў. Ота Штрасер, лідар левай, апазіцыйнай да Гітлера фракцыі партыі нацыстаў, любіў троліць апанента. «Дзе быў Гітлер у красавіку 1919-га? У якім кутку горада хаваўся жаўнер, які павінен быў змагацца ў нашых шэрагах?» — пытаўся ён.

Паводле нацысцкага канону біяграфіі фюрэра, у 1919-м ён сапраўды быў у казарме адной з вайсковых частак, што падтрымала Саветы. Аднак гэты факт тлумачыўся збегам падзей. Сам малады Гітлер, маўляў, свядома сабатаваў усе мерапрыемствы новай улады. Больш за тое, былы яфрэйтар, быццам бы, нават публічна крытыкаваў камуністаў. Хутка нехта з аднапалчанаў стукануў куды трэба — і напрыканцы красавіка за Гітлерам прыйшлі. Аднак ён разагнаў візіцёраў з дапамогай карабіну. Лічылася, што менавіта дзякуючы гэтаму інцыдэнту пазней вайсковы трыбунал, які павінен быў пакараць прыхільнікаў чырвоных, не асудзіў Гітлера.

Такая гераічная старонка жыццёвага шляху правадыра Трэцяга Рэйху, якая, на самай справе, не вытрымлівае ніякай крытыкі: напрыканцы красавіка Цэнтральнага савета як дзеючага органа ўлады ўжо не існавала. Таму сапраўды можна дапусціць удзел будучага ваяўнічага антыкамуніста, стваральніка Антыкамінтэрнаўскага пакту ў войсках баварскай чырвонай арміі.

На думку нямецкай газеты «Der Welt», гэты эпізод згуляў фатальную ролю ў жыцці Гітлера. Каб не трапіць пад каток белага тэрору, ён літаральна за пару дзён перакаваўся з левага радыкала ў правага. Вядома, што хутка ён выдаў трыбуналу палкавых таварышаў, якія падтрымалі рэвалюцыю. З часам спробы мімікраваць пад прыхільніка правых поглядаў сталі часткай светапогляду Гітлера, лічаць аўтары працы «Unter Soldaten und Agitatoren», якая выйшла напярэдадні юбілею Баварскага савецкага эксперыменту.

А вось расійскае выданне «Взгляд» лічыць, што «будучы кіраўнік Трэцяга Рэйху пачаў ненавідзець чырвоных, калі ўбачыў, што яны не здольныя змагацца за свае ідэалы, іх лёгка знішчыць грубай сілай». Самая вясёлая версія пра мюнхенскі фрагмент жыцця Гітлера мае фрывольны прысмак. Паводле яе, ад смяротнага прысуду трыбуналу Гітлера выратаваў яго каханак — Эрнст Рэм, на той час адзін з удзельнікаў Freikorps.

Пакуль адназначнага адказу на пытанне пра тое, як чырвонаармеец Гітлер стаў антыбальшавіком і антысемітам, няма. З іншага боку, можна сапраўды дапусціць, што новыя палітычныя забабоны Гітлера сталі кампенсацыяй за свой рэтраспектыўны, памылковы ўдзел у праекце Баварскай савецкай рэспублікі.

# Напярэдадні вялікага шухеру

Алег НОВІКАЎ

**Тое, што сёння адбываецца ва Украіне, цудоўна ілюструе прыроду шараговага чыноўніка, які, адчуўшы змену кан'юнктуры, спяшаецца здрадзіць гаспадару.**



Фота www.rusdialog.ru

Цалкам не выключана, што праз нейкі час тое ж можа здарыцца з камандай Уладзіміра Зяленскага, якога сацыёлагі бачаць пераможцам другога туру. На думку палітолагаў, ужо праз паўгода новы прэзідэнт, сутыкнуўшыся з масівам цяжкіх праблемаў, будзе выклікаць у грамадстве татальны негатыў. Адпаведна, чальцы яго вертыкалі пачнуць пралічваць варыянты эвакуацыі. Аднак гэта пакуль прагноз, а вось агонія вертыкалі Парашэнкі — гэта рэальнасць. Практычна штодня прыходзяць навіны, што той або іншы чыноўнік раптам пабачыў усе хібы рэжыму.

Цяжка сказаць, хто першы запусціў гэты «флэшмоб». Магчыма, «еўрааптымісты» пад кіраўніцтва Мустафы Наема, што ўваходзілі ў склад фракцыі Блоку Пятра Парашэнка (БПП). Яны клялі прэзідэнта за карупцыю, аднак мандаты здаваць чамусьці не збіраліся. І раптам 28 лютага выйшлі з фракцыі БПП «на знак пратэсту супраць контррэвалюцыі».

Хутка працэс здрады набыў значны маштаб. Сёння здрада прысутнічае ва ўсіх галінах улады. Нешта нядобрае робіцца з падкантрольнымі прэзідэнту сілавікамі. Кажуць, што ў адстаўку папрасіўся кіраўнік СБУ Сяргей Грыцак. Здрада ў парламенце: Віталь Купій, таксама былы член Блоку Пятра Парашэнкі, абвяшчае пра стварэнне фракцыі партыі Зяленскага. У судовай сферы таксама неспакойна: 30 сакавіка пракурор Канстанцін Кулік абвясціў асобаў, якія блізкія да атачэння прэзідэнта, падазраванымі ў карупцыйных аферах.

Часам гэта выглядае вельмі смешна. Напрыклад, Барыс Філатаў, мэр Дняпра, які ў сакавіку асабіста падтрымаў вылучэнне Парашэнкі на другую кадэнцыю, днямі нечакана заявіў, што быў «праціўнікам большасці ініцыятыў прэзідэнта»! У прыватнасці, Філатаў пахваліўся тым, што ўзяў у мэрыю працаваць людзей Януковіча і экс-байцоў «Беркута», супраць-стаяў дэкамунізацыі.

Нават сябры прэзідэнцкай адміністрацыі пішуць заявы «па асабістым жаданні». Прычым, дазваляюць сабе смелыя каментары. Адзін з намеснікаў кіраўніка адміністрацыі аргументаваў рашэнне сысці з працы тым, што «прэзідэнт запісаў сабе ў заслугі дасягненні ў справе абароны краіны і забеспячэння яе дыпламатычнай падтрымкі». «Гэта было абразліва пачуць не толькі для мяне, але і для тысяч вайскоўцаў, якія захоўваюць мір, а таксама для дзясяткаў і сотняў дыпламатаў, якія служаць на карысць Украіны», — сказаў чыноўнік у каментары для СМІ.

Фіксуюцца дэмаршы ў рэгіёнах. Цяпер ужо экс-кіраўнік Адэскай вобласці Максім Сцяпанаў кажа, што яго звольнілі за нізкі вынік Парашэнкі на выбарах у першым туры. А ўсё праз рашэнне Сцяпанава адкласці выплаты аднаразовай дапамогі малазабяспечаным пенсіянерам да заканчэння выбарчага працэсу. Сцяпанаў матываваў паўзу ў выплатах тым, што «выбар краіны павінен быць сумленным, без подкупу, без адміністрацыйнага ўціску».

Чаму чыноўнікі ідуць на такія крокі? «Яны баяцца, што іх могуць зрабіць крайнімі, як было з сілавікамі Януковіча. Іншымі словамі, яны вырашылі не ствараць сабе праблемаў на будучыню. Цяпер кожны сам за сябе», — мяркуе вядомы ва Украіне палітолаг Вадзім Карасёў. А вось іншы палітолаг, Сяргей Рудэнка, лічыць, што тут ёсць віна самога Парашэнкі. Пасля пройгрышу ў першым туры ён зняў шэраг рэгіянальных чыноўнікаў, якія не забяспечылі патрэбны вынік. А такім чынам у гэтым асяроддзі справы не вырашаюцца. «Ён (Парашэнка) "злівае" сваіх. Таму і свае яго таксама "зліваюць". Людзі проста будуць чакаць, чым усё скончыцца, сабатуючы ўказанні», — кажа Рудэнка.

Між тым, 15 красавіка адбылася падзея, на якую прэса адрэагавала загалоўкамі кшталту «сістэма канчаткова трэснула». На свабоду давялося адпусціць удзельніцу АТА, дэпутата Вярхоўнай Рады Надзею Саўчанка, якая правяла больш за год за кратамі па абвінавачванні ў спробе арганізацыі штурму ўрадавага квартала ў Кіеве з мэтай забойства ўкраінскай эліты. Прычым гэты план, калі верыць Генпракуратуры, быў узгоднены з кіраўніцтвам ДНР.

Справа не ў тым, што абвінавачванні, выстаўленыя Саўчанка, выглядаюць фантастычна, што можа скапраметаваць пракурора Юрыя Луцэнку. Справа ў тым, што Саўчанка — люты вораг Парашэнкі, якая неаднаразова заклікала народ Украіны да паўстання і пагражала гаранту асабіста. Тое, што суддзі вырашылі не працягваць тэрмін яе знаходжання ў следчым ізалятары, выглядае як знак непадкантрольнасці дзейнаму прэзідэнту.

Надзея Саўчанка, дарэчы, ужо паабяцала прыйсці ў наступны панядзелак у Вярхоўную Раду і адцягнуцца напоўніцу. Аднак спачатку краіне трэба перажыць нядзелю, 21 красавіка, — дзень другога туру галасавання на выбарах прэзідэнта. І самай незвычайнай развязкай на выбарах можа быць перамога Парашэнкі, рэйтынг якога напачатку тыдня складаў каля 30 працэнтаў. Калі Пётр Аляксеевіч зробіць немагчымае і пераможа Зяленскага, няма сумневу, што ўсе, хто паспеў здрадзіць яму раней, адразу пабягуць каяцца.


Фота www.unian.net

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эмануэль Макрон



Да ўсіх праблемаў французскага гаранта дадаўся пажар у Саборы Парыжскай Божай Маці, што здарыўся 15 красавіка.

Пажарныя яшчэ не паспелі цалкам лакалізаваць полымя, як левая апазіцыя атакавала цяперашняга гаспадара Елісейскага палацу. У левых медыя звяртаецца ўвага на хранічнае кепскае фінансаванне сталічных пажарнікаў. Адначасова ўсё больш бюджэтных сродкаў апошнім часам ідзе на падтрымку паліцэйскіх, якія змагаюцца з пратэстамі «жоўтых камізэлек».

Не толькі левыя крытыкуюць Макрона за пажар. Правыя папулісты, блізкія да Марын Ле Пэн, лічаць, што кафедральны сабор падпалілі ісламскія фундаменталісты, якія, маўляў, абсалютна вольна сябе адчуваюць пры цяперашнім прэзідэнце-ліберале. Звяртаецца ўвага на нядаўнюю спробу падпалу царквы Сэн-Дэні — пахавальні французскіх каралёў.

Найбольш вар'яцкую ідэю навязваюць правыя медыя. Калі ім верыць, Нотр-Дам «замовілі» банкіры з сямейства Ротшыльдаў, якія фінансавалі кампанію Макрона і марылі адпомсціць касцёлу за пераслед яўрэяў. Па іх патрабаванні прэзідэнт паслабіў пажарную ахову сабора.

Думаецца, што на гэтым спіс аматараў крытыкаваць Макрона за спаленую царкву не скончыцца. З іншага боку, нельга выключыць, што такога кшталту інсінуацыі могуць мець адваротны эфект. Сабор Нотр-Дам успрымаецца французамі як сімвал нацыі, і палітызацыю трагедыі народ можа папросту не зразумець. Прынамсі, першай рэакцыяй на пажар сталі не палітычныя маніфестацыі, а калектыўныя малітвы.

### Дарыга Назарбаева



Дачка Нурсултана Назарбаева і спікер верхняй палаты казахскага парламента дае незразумелыя сігналы адносна свайго ўдзелу ў выбарах на вакантную пасаду прэзідэнта, якія прызначылі на 9 чэрвеня.

Спачатку з'явілася інфармацыя, што Дарыга не плануе балатавацца. Пазней дачка Нурсултана раптам заявіла, што папярэдняя інфармацыя недакладная, аднак зноў жа не паведаміла, ці прыме прапанову партыі «Нур Атан» (мясцовы аналаг нашай «Белай Русі») вылучыць сваю кандыдатуру на выбарах.

На думку экспертаў, такога кшталту віражы Дарыгі сведчаць пра адсутнасць канчатковага рашэння наконт пераемніка Елбасы. Справа ў тым, што пасля абрання Дарыгі прэзідэнтам сусветная супольнасць дакладна пачне казаць пра ператварэнне Казахстана ў ханства.

Альтэрнатывай Дарыгі можа быць выконваючы сёння абавязкі прэзідэнта Касым-Жамарт Такаеў. Прэзідэнцтва апошняга дазваляе захаваць Казахстану знешнепалітычны імідж. Акрамя таго, Такаеў не ўяўляе пагрозы для клану Назарбаева з прычыны нядаўняй рэформы, якая падпарадкавала прэзідэнцкую адміністрацыю Радзе бяспекі (старшыня — Нурсултан Назарбаеў). Тым не менш, канчатковага рашэння наконт кандыдатуры Такаева таксама яшчэ няма. Шанцы ў Дарыгі пакуль застаюцца.

### Эва Маралес



Прэзідэнт Балівіі, першы ў гісторыі краіны індзеец, які заняў такую высокую пасаду, даўно выступае за тое, каб Балівія вярнула сабе тэрыторыі, што страціла ў далёкім 1883 годзе.

У тым годзе краіна, якая прайграла вайну Чылі, была вымушана адмовіцца ад выхаду да Ціхага акіяну. Балівійцы дасюль сумуюць наконт таго, што больш не з'яўляюцца марской нацыяй, і мараць пра рэванш. У мінулым годзе марскія надзеі атрымалі рэальныя контуры. Міжнародны Гаагскі трыбунал пагадзіўся разгледзець адпаведную позву Балівіі да Чылі, аднак у выніку Гаага вырашыла пакінуць усё як ёсць.

Маралес пакрыўдзіўся, аднак не здаўся. Цяпер ён прапануе новы праект вяртання Балівіі статусу марской дзяржавы праз рачны маршрут з балівійскай правінцыі Санта-Крус да аргенцінскага Буэнас-Айрэса. Паколькі плыць трэба амаль тры тысячы кіламетраў, праект падаецца фантастычным. Не кажучы пра тое, што экологі, якія непакояцца за экасістэмы рэкаў Лацінскай Амерыкі, ужо б'юць у званы.

Аднак Ла-Пас сапраўды не жартуе. Маралес абвясціў, што яго ўрад інвестуе 250 мільёнаў долараў у будаўніцтва сучаснага порту ў Санта-Крус, адкуль балівійскі гандлёвы флот будзе рушыць у бок Атлантычнага акіяну. Плануецца штогод экспартаваць па гэтым маршруце каля 2–3 мільёнаў тон карысных выкапняў, якія вельмі запатрабаваныя на сусветным рынку.

# «Забіце мяне, не забівайце

Зміцер ЮРКЕВІЧ

**Ёсць вядомая карціна польскага мастака Яна Матэйкі пад назвай «Рэйтан на Сойме 1773 года». Твор напісаны ў 1866 годзе, а выяўленая на ім сцэна нагадвае пра трагічную сітуацыю, якая склалася на Сойме Рэчы Паспалітай у красавіку 1773 года. Ляжачы чалавек у шляхецкім убранні, разарваўшы на грудзях жупан, адчайна закрывае соймавым паслам выхад з памяшкання.**



Ян Матэйка. Рэйтан на Сойме 1773 года

Імя Тадэвуша Рэйтана для палякаў даўно, яшчэ з XIX стагоддзя, стала ўвасабленнем вобразу самаахвярнага патрыёта. У Беларусі ж гэты чалавек пасля Другой сусветнай вайны быў забыты, нягледзячы на яго мясцовае паходжанне.




Але ў XVIII–XIX стагоддзі закладалі падмуркі культу памяці пра Рэйтана яго землякі-літвіны з Віцебшчыны, Наваградчыны, Брэстчыны і Віленшчыны: пісьменнікі Францішак Князьнін, Юльян Урсын Нямцэвіч, Адам Міцкевіч, Генрык Жавускі (стрыечны ўнук Тадэвуша Рэйтана), Уладзіслаў Сыракомля, мастакі Францішак Смуглевіч і Людвік Горварт. З беларусаў жа ў другой палове XX стагоддзя адзіным пісьменнікам, які меў мужнасць згадаць пра Рэйтана ў сваіх творах, стаў Уладзімір Караткевіч.

Сёння, аднак, памяць пра Тадэвуша Рэйтана і ў нас ажывае ды ўсё больш актуалізуецца. Яму ўжо аддае належнае нават сучасная беларуская дзяржава, пра што сведчаць дакументальны фільм, створаны на тэлеканале АНТ, фестывалі, выставы, публікацыі ў дзяржаўных СМІ. Праўда, пакуль у нас няма прысвечаных Рэйтану вуліц, школ, памятных дошак і помнікаў, але трэба спадзявацца, што з часам з'явіцца і яны. Бо, як казаў Адам Міцкевіч, «сам народ прызнаў Рэйтана Вялікім». А той народ, за інтарэсы якога змагаўся Рэйтан, быў не толькі польскім.

## Нашчадак крыжакоў

Першыя згадкі пра род Рэйтанаў сягаюць у сярэдзіну XV стагоддзя, і датычаць яны тэрыторыі Усходняй Прусіі. У 1467–1468 гадах Якуб фон Рэйтан атрымаў ад кіраўніцтва Тэўтонскага ордэна дзве вёскі, за што павінен быў станавіцца ў шэрагі крыжакоў у лёгкім узбраенні. Адкуль быў родам і якога паходжання быў гэты Якуб, да гэтага часу не вядома. Мог ён быць і прусам, і немцам, і анямечаным славянінам з тэрыторыі Саксоніі, адкуль на землі Тэўтонскага ордэна ішоў самы вялікі паток каланістаў. У любым выпадку, у жылах нашчадкаў Якуба цякла мяшаная кроў, бо Рэйтаны актыўна радніліся з мясцовымі родамі, сярод якіх былі як немцы-перасяленцы, так і анямечаныя прусы-аўтахтоны.

У пачатку XVII стагоддзя, падчас вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй, адзін з Рэйтанаў, Фрэдэрык Ян, паступіў на службу да аднаго з літоўскіх магнатаў — Жыгімонта Караля Радзівіла, які быў сваяком. Вярнуўшыся з гэтага паходу разам з Рэйтанам, Радзівіл, «мінуючы сойм», увёў яго ў шляхецтва ВКЛ. З таго часу і аж да пачатку XX стагоддзя, калі памёр, не пакінуўшы нашчадкаў, апошні прадстаўнік роду Юзаф Пётр Павел, Рэйтанаў і Радзівілаў лучылі розныя сувязі: і сваяцкія, і сяброўскія, і адносіны «кліент-патрон».

## Бацькі і Грушаўка

У мінскім фарным езуіцкім касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі 4 кастрычніка 1739 года адбылася цырымонія вянчання. Маладымі былі Дамінік Рэйтан, гусарскі харужы і навагрудскі стражнік, і Тарэза, дачка мінскага стольніка Лявона Паўла Валадковіча. Род Валадковічаў меў вялікі ўплыў на Міншчыне, а іх радавая сядзіба знаходзілася на тым месцы, дзе сёння размяшчаецца Палац Рэспублікі. Мінскім паходжаннем Тарэзы якраз і тлумачыцца, чаму вянчанне адбывалася ў гэтым горадзе — тады была традыцыя рабіць гэта менавіта ў парафіі, да якой належала маладая.

Але жыць навастворaная сям'я стала ў радавым котлішчы Рэйтанаў — маёнтку Грушаўка, які знаходзіцца паміж Ляхавічамі і Нясвіжам. Гэты маёнтак Міхал Рэйтан, бацька Дамініка, набыў у канцы XVII стагоддзя. З таго часу і да 1910 года Грушаўка належала роду Рэйтанаў, а пазней іх сваякам.

Дамінік Рэйтан добра падрыхтаваўся да сустрэчы жонкі. Ім быў узведзены аднапавярховы драўляны сядзібны дом, даволі тыповы для таго і пазнейшага часу. Гэты будынак вядомы з акварэлі Напалеона Орды, які і сам і сваякі якога не раз бывалі ў Рэйтанаў як госці.

## Пад харугвамі Радзівілаў

Тадэвуш Рэйтан, якому лёсам было наканавана стаць самым славутым прадстаўніком свайго роду, нарадзіўся праз год пасля шлюбу бацькоў, блізу 28 кастрычніка 1740 года. Атрымаўшы імя ў гонар святога Тадэвуша, добрую хатнюю адукацыю і ўзорнае выхаванне, ён працягнуў навуку, па ўсёй верагоднасці, у нясвіжскім езуіцкім калегіуме. Завяршыўшы навучанне, Тадэвуш стаў правай рукой свайго бацькі. Паводле даўняй сямейнай традыцыі, Рэйтаны былі прыхільнікамі Радзівілаў. А паколькі па смерці Міхала Казіміра Радзівіла «Рыбанькі» тагачасны галава гэтага роду, Караль Станіслаў «Пане Каханку», браў актыўны ўдзел у міжусобных магнацкіх войнах, якія разгортваліся на фоне палітычнай нестабільнасці ў краіне, то і Тадэвуш таксама не мог застацца ад гэтага ўбаку. І калі «Пане Каханку» прайграў вайну роду Чартарыйскіх падчас міжкаралеўя 1763–1764 гадоў, часова страціўшы ўсе свае ўладанні і змушана выправіўшыся ў эміграцыю, яго долю падзяліў і малады Рэйтан. Праўда, ужо ў 1766 годзе Рэйтан атрымаў амністыю і змог вярнуцца ў ВКЛ.

Неўзабаве вярнуўся на радзіму і «Пане Каханку». Але ён зноў не ўтрымаўся, каб не ўмяшацца ў бягучыя палітычныя падзеі. Далучыўшыся да Барскай канфедэрацыі, скіраванай супраць караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і расійскага ўплыву, Радзівіл сабраў войскі ў Нясвіжы і ўступіў у бай з расійскімі падраздзяленнямі. У гэтым яму дапамагалі стары навагрудскі падкаморы Дамінік Рэйтан і ягоны сын Тадэвуш. Але сілы аказаліся няроўнымі, канфедэраты прайгралі, а «Пане Каханку» зноў мусіў падацца на эміграцыю, гэтым разам на доўгія 10 гадоў.

У 1769 годзе памёр Дамінік Рэйтан, пасля чаго Тадэвуш стаў галавой усяго роду. На яго зваліліся вялікія побытавыя клопаты, бо трэба было «ставіць на ногі» шматлікіх малодшых братоў і сясцёр. Але мірна займацца гаспадаркай зноў доўга не давялося. Новая пагроза паклікала ваяра ў сядло.

## Бацькаўшчына ў небяспецы

У 1772 годзе, пасля патаемных перамоў, якія вялі міжсобку расійскі, прускі і аўстрыйскі манаршыя двары, было прынятае рашэнне аб падзеле Рэчы Паспалітай. У верасні 1772 года войскі аўстрыйскага і расійскага імператараў і прускага караля ўвайшлі на яе тэрыторыю і занялі вызначаныя пад анексію землі. З земляў Вялікага Княства Літоўскага да Расійскай імперыі мусілі адысці такія гарады, як Полацк, Віцебск, Мсціслаў, Магілёў, Гомель — агулам 92000 квадратных кіламетраў з насельніцтвам блізу 1300000 чалавек.

Каб надаць сваім дзеянням выгляд законнасці (толькі і ўсяго, што вяртанне «спрадвечных тэрыторый»), дзяржавы-захопніцы дамагаліся правядзення надзвычайнага Сойму Рэчы Паспалітай, які меў задачай пацвердзіць падзел і санкцыянаваць новыя межы. Кароль Станіслаў Аўгуст, паддаўшыся вонкаваму ціску, у лютым 1773-га склікаў сенат, які прыняў рашэнне аб правядзенні Сойму. Соймікі, дзе абіраліся дэпутаты на яго, праводзіліся ў сакавіку.

Усяго ў Варшаву з'ехаліся 111 паслоў: 87 з тэрыторыі Польшчы, 24 — з ВКЛ. Намагаючыся забяспечыць сабе на Сойме большасць галасоў, расійскія, прускія і аўстрыйскія агенты — дзе грашыма, а дзе і зброяй — дабіваліся, каб шляхта выбрала дэпутатамі найменш прынцыповых асобаў. І гэта ў цэлым удалося. Але нават у такіх умовах знайшліся дэпутаты, якія ехалі на Сойм бараніць інтарэсы не чужынцаў, а ўласнай дзяржавы.

З такімі думкамі ехалі ў Варшаву і паслы, абраныя ў Наваградскім ваяводстве, — наваградскі падкаморы Тадэвуш Рэйтан (32 гады) і наваградскі земскі пісарэвіч Самуэль Корсак (каля 27 гадоў). Пра тое, што гэтыя паслы ехалі «на смерць», сведчыць адзін з пунктаў іх інструкцыі. Ён загадваў сваім паслам «пад пагрозай страты жыцця і маёнтка» не дазволіць адняць ад краіны нават маленькага кавалка тэрыторыі. Выкананне гэтай інструкцыі было справай маларэалістычнай, але наваградскія паслы, прынамсі,



# Айчыну!»

збіраліся паспрабаваць. Мелі яны на мэце і іншае.

### Гістарычнае супрацьстаянне

Сойм мусіў урачыста адкрыцца 19 красавіка 1773 года. Праўда, яго замежныя рэжысёры пачалі рэалізоўваць свае планы за некалькі дзён да таго. 16 красавіка на прыватнай кватэры сабраліся на сход тыя паслы, якія да таго часу ўжо прыехалі ў Варшаву. Яны былі папярэдне апрацаваныя і падкупленыя, а таму паслухмяна выканалі дзеянні, якія ад іх патрабаваліся. На сходзе была заснавана шляхецкая канфедэрацыя, маршалкам якой быў абраны расійскі агент Адам Панінскі. Трэба адзначыць, што з амаль 80-ці паслоў, якія заснавалі гэтую канфедэрацыю, толькі сем прадстаўлялі ВКЛ.

Сэнс гэтай камбінацыі быў наступны. Паводле тагачасных законаў Рэчы Паспалітай, у Сойме дзейнічала правіла liberum veto, якое прадугледжвала прынцып аднагалосся пры прыняцці ім рашэнняў. Згодна з гэтым правілам, любы пасол мог спакойна сарваць Сойм, бо пасля ўжывання liberum veto Сойм мусіў спыніць сваю працу. Але правіла пераставала дзейнічаць у тым выпадку, калі Сойм меў статус канфедэрацкага. Каб надаць Сойму менавіта такі статус і такім чынам пазбавіць апазіцыю ўсялякіх магчымасцяў для хоць нейкага ўплыву, акурат і павінна была служыць патаемна заснаваная канфедэрацыя. Праўда, па законах краіны гэта было нечуванае да таго злачынства. Бо канфедэрацыі мусілі стварацца задоўга да Сойму, а не ў апошні дзень.

Пра стварэнне канфедэрацыі і, адпаведна, перафарматаванне Сойму было абвешчана адразу пасля пачатку яго працы. Адам Панінскі быў прадстаўлены як маршалак Сойму.

І тут са свайго месца гучна адазваўся Тадэвуш Рэйтан. Ён заявіў, што скліканне Сойму ў Варшаве ўвогуле незаконнае, бо кожны трэці Сойм мусіць, па законе, праходзіць на тэрыторыі ВКЛ і маршалкам мусіць быць «ліцьвін, абраны адкрытым галасаваннем з прысутных паслоў ВКЛ». Далей Рэйтан засведчыў неадпаведнасць закону створанай на прыватнай кватэры нейкай «канфедэрацыі», а таксама перафарматавання Сойму з вальнага ў канфедэрацкі.

Выступленне Рэйтана мела выбуховы эфект, у залі пасля яго ўзняўся страшэнны шум. Навагрудскага пасла падтрымалі 16 іншых паслоў з ВКЛ, а таксама адзінкі з палякаў. Рэйтан не даў Панінскаму прыступіць да выканання абавязкаў маршалка, сам заняўшы адпаведнае крэсла. Гэтым Тадэвуш дэманстраваў, што выбар маршалка на патаемным сходзе з пункту гледжання закона — нікчэмны, і што з такім жа поспехам гэтую функцыю можа выконваць і ён сам, нікім не абіраны.

Пратэсты Панінскага і яго прыхільнікаў нічога не далі. Першае пасяджэнне Сойму скончылася нічыёй. З аднаго боку, Сойм не ўдалося адразу павесці паводле загадзя запланаванага сцэнарыя, з другога — у Рэйтана і яго аднадумцаў не атрымалася пераламаць настрої, арганізаваўшы выбары новага, законнага маршалка. Сесія была толькі перанесеная на наступны дзень.

Змаганне, аднак, працягвалася. Паслы-патрыёты засталіся ў зале пасяджэнняў на ўсю ноч з мэтай прадухіліць яе захоп агентамі Панінскага. А назаўтра жарсці разгарэліся з новай сілай. Рэйтан і яго прыхільнікі голасна даводзілі, што канфедэрацыя ніяк не можа стварацца вось так — на прыватнай кватэры за дзень да Сойму. Бо паслы адпаведнымі ўніверсаламі караля склікаліся на вальны Сойм, і менавіта на яго павятовай шляхтай выпраўляліся, пра што сведчаць іх інструкцыі. Пра канфедэрацыі ж ніякай гаворкі не вялося. Слоўныя баталіі цягнуліся некалькі гадзін, пакуль пасяджэнне зноў было не закрытае і перанесенае на новы дзень. Рэйтан з аднадумцамі зноў начавалі ў памяшканні Сойму.







Сядзіба Рэйтана

Такім самым чынам прайшоў і трэці дзень — апошні з тых, якія адводзіліся законам на выбары маршалка Сойму. Калі было абвешчана, што сесія зноў закрываецца і пераносіцца на заўтра, а частка паслоў пацягнулася да выхаду, Рэйтан наважыўся на зусім адчайны крок. Роспачна апелюючы да сумлення паслоў-здраднікаў і заклікаючы іх успомніць пра любоў да Бацькаўшчыны, ён заступіў ім выхад сваім распасцёртым на падлозе целам, у разадраным на грудзях кунтушы і жупане. Сэнс словаў, якімі ён спрабаваў растапіць сэрцы апанентаў, быў такі: «Забіце мяне, не забівайце Айчыну!» Але нічога не дапамагло. Прыхільнікі Панінскага пераступілі праз Рэйтана і выйшлі з залы. Тыя з паслоў, якія не падпісалі акта канфедэрацыі раней, зрабілі гэта цяпер.

Толькі трое паслоў з ВКЛ, — Рэйтан, Корсак і прадстаўнік Мінскага павета Станіслаў Багушэвіч, — засталіся ў Сойме і на трэцюю ноч, каб зранку не даць Панінскаму ўвайсці ў залу з трыумфам. Іх спрабавалі падкупіць, запалохаць ці выманіць адтуль рознымі хітрыкамі, але ўсё было марна. Сышлі яны з залы толькі тады, калі ўвечары каралеўскі сакратар паведаміў пра далучэнне да канфедэрацыі самога Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Далейшы супраціў у такіх умовах рабіўся бунтам супраць караля і дзяржавы. Таму літоўскія паслы пайшлі, і дзверы за імі зачыніліся. Фармальна яны прайгралі, але маральная перамога была на іх баку.

Дарэчы, многія еўрапейскія выданні таго часу адгукнуліся цэлымі серыямі публікацый пра падзеі на Сойме. «Навагрудскія паслы Рэйтан і Корсак», не сыходзілі з іх старонак доўгі час. Праз гэта свет даведаўся сярод іншага і пра існаванне беларускага горада.

Негатыўная інфармацыйная хваля, якая, дзякуючы тром паслам з Ляхавічаў, Навагрудка і Мінска, знесла ўсе грэблі «легальнасці» падзелаў Рэчы Паспалітай. Дэкарацыі, якія так старанна выбудоўвалі тры імперыі, абваліліся праз намаганні трох чалавек! Свет даведаўся, што гаворка вядзецца пра гвалтоўны захоп чужых земляў, пра выкручванне рук Панятоўскаму праз «трох арлоў, якія мелі на траіх пяць галоваў».

Рэйтан працягваў сваё змаганне з Панінскім, ваюючы словам. Той выдаў загад арыштаваць навагрудскага пасла. Калі за Рэйтанам прыйшлі судовы чыноўнік, афіцэр і сем жаўнераў, Тадэвуш з такім імпэтам наляцеў на іх з шабляй, што яны вымушаныя былі збегчы.

У гэты самы час Станіслаў Багушэвіч перадаў з гродзенскім шляхціцам Адамам Кулікоўскім для актыкацыі ў мінскі гродскі суд свой ліст, у якім апісаў усё, што насамрэч адбывалася на Сойме. Усе «подзвігі» Панінскага сталі вядомыя жыхарам ВКЛ. На падставе гэтага ліста і некаторых дакументаў у час Вялікага Сойму Панінскага ўзялі пад варту, асудзілі, пазбавілі чыноў і ўзнагарод і выгналі з краіны. Але Расія не пакінула свайго кліента ў бядзе. Праз некалькі гадоў ён вярнуўся ў Рэч Паспалітую, атрымаў усё адабранае і прыдбаў яшчэ болей.

Здрада не прынесла яму шчасця. Памёр Панінскі ў 1798 годзе ў прыдарожнай канаве, адмовіўшыся ад апошніх паслугаў ксяндза.

А што ж Тадэвуш Рэйтан? Ён прыняў рашэнне застацца ў Варшаве, каб быць сведкам гвалту з краіны. Увесь час быў напагатове, гатовы схапіцца за шаблю, каб задорага прадаць сваё жыццё. Ліставаўся з Радзівілам.

У красавіку 1775 года Сойм яшчэ раз пацвердзіў Акт падзелу ВКЛ і Польшчы. Некаторыя паслы, якія хоць і падпісалі Акт канфедэрацыі, не паставілі свае подпісы пад Актам падзела Бацькаўшчыны. Больш за тое, у апошнія дні Сойму яны занеслі ў суд свае маніфесты, у якіх не прызнавалі падзел законным.

### Смерць не была самагубствам

Пасля завяршэння Сойму Тадэвуш Рэйтан вярнуўся ў Грушаўку. Больш ён ніколі не браў удзелу ні ў якіх палітычных гульнях, заняўшыся, пры падтрымцы братоў, аднаўленнем падупалай сямейнай гаспадаркі. Да траўня 1780 года яго імя можна было часта сустрэць на старонках розных судовых дакументаў.

Памёр Тадэвуш Рэйтан 8 жніўня 1780 года, і яго смерць даволі загадкавая. Да нядаўняга часу лічылася, што ён скончыў жыццё самагубствам. Але гэта міф. З таго, што засталося з апісанняў падзей, якія разыграліся ў Грушаўцы напачатку жніўня 1780 года, а таксама з архіўных дакументаў, вынікае наступнае. Расійскі генерал Іван Міхельсон, які за год да таго набыў у Міхала, малодшага брата Тадэвуша, маёнткі Рэйтанаў каля горада Невеля, што пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай апынуўся ў складзе Расіі, наведаў Грушаўку з візітам ветлівасці. Полк Міхельсона базаваўся недзе непадалёк, а сам Міхельсон яшчэ меў і іншыя эканамічныя інтарэсы ў Навагрудскім ваяводстве.

Пабачыўшы ворага — а расійскіх вайскоўцаў ён адназначна лічыў ворагамі, — на сваёй роднай зямлі, Тадэвуш пачаў гнаць яго са двара. Браты, напалоханыя, што гэта можа мець непажаданыя наступствы, зачынілі Тадэвуша ў невялічкім цагляным дамку, так званай Мураванцы (яна захавалася да нашага часу). Вокны ў дамку былі добра закратаваныя. Тадэвуш Рэйтан, разгневаны, што яго браты гасцінна прымаюць ненавісных акупантаў, разбіў шыбы і, спрабуючы вырваць жалеза, моцна пакалечыўся, страціўшы шмат крыві.

Праз два дні ён памёр, сустрэўшы смерць так, як і належыць узорнаму хрысціяніну — у прысутнасці святара, якога да апошняга трымаў за руку. Пахавалі героя ў касцёле ў мястэчку Ляхавічы, чаго ніколі б не зрабілі, каб гаворка ішла пра самагубцу.

Праўда, спакойнага жыцця не было нават і праху Рэйтана. Праз 87 гадоў, пасля паўстання 1863–1864 гадоў, касцёл зачынілі, а праз месяц асвяцілі як праваслаўную царкву. Труну Тадэвуша з крыпты былога касцёла перанеслі на могілкі і, відаць, перапахавалі на родавым магільніку, дзе спалі вечным сном яго браты, пляменнік Дамінік і сын Дамініка Стафан з жонкай. Раскопкі, якія ў 1930 годзе былі праведзеныя ў Грушаўцы і якія ў тагачасных польскіх СМІ грымнулі сенсацыяй «Знойдзена магіла героя!», на самай справе далі адмоўны вынік. Тады была знойдзена цагляная крыпта, у якой знаходзіліся парэшткі жанчыны, ростам каля 161 сантыметра, узростам 40–50 гадоў. Магчыма, гэта была магіла маці Тадэвуша, якая памерла ў Грушаўцы ўлетку 1760 года.

Дакладнае ж месца пахавання Тадэвуша Рэйтана дагэтуль не вядомае. Таму, магчыма, нас яшчэ чакае сенсацыя на ўзроўні знойдзеных нядаўна парэшткаў Кастуся Каліноўскага.

А галоўнае, наперадзе паўнагучнае вяртанне з часовай эміграцыі імя Тадэвуша Рэйтана. Гэтым годам пачнуцца аднаўленчыя працы ў Грушаўскай сядзібе, якія будзе праводзіць наша дзяржава. І будзем спадзявацца, што ў наступным годзе ў Ляхавічах, на малой радзіме Рэйтана, з'явіцца і вуліца ў гонар героя. Бо гэта будзе 280-гадавіна нараджэння чалавека, імя якога стала сінонімам слова «патрыёт».

# Чарнобыльскі ўдар




**Па гарызанталі:** 1. «Я сумую па Белай Русі // Дачарнобыльскай чыстаросай». З верша Эдуарда Акуліна «Ад чаго ты самотны, ... ?». 4. «Ліхань і плутонь жывым не трэба». З верша Міхася Скоблы «Чарнобыльская ...». 6. Спецыяльны прыбор. 10. Голас некаторых птушак і жывёл. 11. Мастацкі жанр музычнага твора пра Чарнобыль «Зорка Палын» выдатнага беларускага кампазітара Дзмітрыя Даўгалёва. 12. «Як чарнобыльскі ... // Здзічэлы //Ваўкамі па краю гуляе. // Як святыя крыніцы ўсе // Атрутнымі сталі». З верша Ніны Аксёнчык «У чарнобыльскай зоне». 15. Уменне, выпрацаванае працай. 17. Рамка. 19. Бег каня наўскач. 20. Музыкант (размоўнае). 21. Частка доменнай печы, дзе згарае паліва. 22. Той, хто перавозіць грузы на конях. 24. ...–137. Хімічны элемент, адзін з галоўных кампанентаў радыяцыйнага забруджвання біясферы. 26. Гонкі на аўтамабілях тыпу карт. 30. Тое, што і контур. 32. «— Мама, мама, // Там, у Зоне, // Засталася ... Галя. // — Спаць, дачушка, // Трэба сёння». З верша Алеся Камароўскага «Чарнобыльская калыханка». 33. ... Легасаў. Імя выдатнага савецкага вучонага, які правёў уласнаручнае расследаванне чарнобыльскай катастрофы, знаходзячыся доўгі час у небяспечнай зоне паблізу рэактара. Памёр ад прамянёвай хваробы. 34. Гатунак тавару.

**Па вертыкалі:** 1. Аснова, на чым грунтуецца што-небудзь. 2. «Бліскавіцай урану можна ... спаліць». З верша Генадзя Бураўкіна «Той чарнобыльскай ночу». 3. Прыстасаванне для плавання. 5. «Ах, Чарнобыль...// Чарнобыль... // Чарнобыль! // Неславутая ў свеце ...! // Ты ў свае праглынула вантробы // Нашу вёску, і поле, і лес». З верша Анатоля Грачанікава «Ах, Чарнобыль!». 7. Слова, якое ўжываецца пры здзіўленні, захапленні. 8. «Ударыў ... на Беларусі: // Хрыстос ваксрос! Хрыстос ваксрос!». З верша Ларысы Геніюш «Хрыстос ваксрос!». 9. «Я ўзіраюся ў зорнае ... // Над мёртвымі вёскамі // Гомельшчыны і Магілёўшчыны». З верша Алы Канапелька «Пілоту». 13. «За ракою пыхае АЭС. // Без людзей пагорбіліся хаты». З верша Анатоля Грачанікава «Радыяцыя — нябачны ...». 14. «Чарнобыльская ...». Кніга нобелеўскай лаўрэаткі, пісьменніцы, журналісткі Святланы Алексіевіч. 16. Мяккая скура, выробленая пад аксаміт. 18. ... або ікона «Маці божая ахвяр Чарнобыля». Высокамастацкі твор выдатнага беларускага мастака Алеся Марачкіна. 21. «Хрыстос ваксрос! — // ... цёмны плача // І не саромеецца слёз». З верша Рыгора Барадуліна «Евангелле ад мамы». 23. «Каб за нас не пакутавалі дзеці, // не яны каб, // а мы неслі ...». З верша Наталлі Арсенневай «Чарнобыль». 25. «... гэтай зоркі — Чарнобыль». Кніга Алеся Адамовіча. 27. «Ты праз ... смяротна калючы, // Не вярнуўся ка мне ўпершыню». З верша Зінаіды Гасіловіч «Жонкам пажарнікаў, загінуўшым на Чарнобыльскай АЭС». 28. «Са стронцыем сёння паснедаў, // З плутоніем, мусіць, абедаў // І з цэзіем вымыў свой ...». З верша Януся Мальца «Як многа чарнобыльскі ўдар». 29. Апрацаванае пад сяўбу поле. 31. Састарэлая адзінка вымярэння дозы выпраменьвання.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Дзень Волі — гэта Вясна!» (НЧ №11 ад 22 сакавіка):**

**Па гарызанталі:** 1. Палеміст. 5. Красуня. 9. Акт. 10. Цемрашалы. 11. Бор. 12. Туша. 14. Народ. 18. Ржаны. 19. Асада. 20. Мецца. 21. Транс. 23. Свята. 26. Божа. 30. Хна. 31. Вайсковец. 32. Сто. 33. Льдзіна. 34. Балгарка.

**Па вертыкалі:** 1. Прастор. 2. Лот. 3. Маці. 4. Турма. 5. Кашпо. 6. Смык. 7. Неба. 8. Праўда. 13. Шчасце. 15. Вырай. 16. Паэты. 17. Малако. 20. Мачыха. 22. Свабода. 24. Вясна. 25. Тромб. 27. Рацы. 28. Звоз. 29. Сцяг. 32. Сыр.

# БагатаДата

**Вялікдзень, Міжнародны дзень салідарнасці моладзі, 75-годдзе Зянона Пазьняка. Іншыя цікавыя даты і падзеі — у нашым аглядзе.**

## 20 красавіка

**Міжнародны дзень цырку.**

**1994.** Уступіў у сілу аднаймены падстававы дакумент Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы — ваенна-палітычнага саюза шэрагу краінаў СНД, утворанага з падачы Расіі. Акрамя яе, у АДКБ уваходзяць Беларусь, Казахстан, Кыргызстан, Арменія і Таджыкістан.

## 21 красавіка

**Вялікдзень (па календары каталіцкай канфесіі)**

**1954.** У вёсцы Ганчароўка Смалявіцкага раёна на Міншчыне нарадзіўся Валерый Рачкоўскі, галоўны мастак Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек. Ён паставіў больш за 75 спектакляў для дзяцей і дарослых. Валерый Рачкоўскі пайшоў з жыцця ў 2014 годзе.

## 22 красавіка

**1794.** Пачатак паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі супраць рускай акупацыі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Тут яго ачоліў Якуб Ясінскі. Яшчэ гэтую падзею называюць Віленскім паўстаннем: атрад пад праваднірствам Ясінскага раптоўна напаў на рускі гарнізон. У першай палове 23 красавіка Вільня ўжо была пад кантролем паўстанцаў, а камендант, генерал-маёр Мікалай Арсенцеў, узяты ў палон.

## 23 красавіка

**1889.** У расійскім Варонежы нарадзіўся Васіль Лявонаў, адзін з заснавальнікаў педыятрыі ў Беларусі. Ён — першы кіраўнік Таварыства дзіцячых лекараў БССР, заснавальнік і першы дэкан факультэта аховы мацярынства і дзяцінства Мінскага медыцынскага інстытута.

**1934.** У вёсцы Верасхава Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці нарадзіўся доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан.

**1954.** У Баранавічах нарадзіўся мастак-авангардыст Уладзімір Акулаў.

## 24 красавіка

**Міжнародны дзень салідарнасці моладзі.**

**1944.** У вёсцы Суботнікі Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці нарадзіўся археолаг, мастацтвазнаўца і палітык Зянон Пазьняк. Адкрывальнік праўды пра Курапаты, заснавальнік Беларускага народнага фронту, дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 1994 года. З 1996 года — у эміграцыі.

**1949.** У вёсцы Бераснёўка Кіраўскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся публіцыст і пісьменнік Уладзімір Саламаха. Працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Вожык» і выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя».

## 25 красавіка

**1939.** Нарадзілася дыктарка беларускага тэлебачання, народная артыстка Зінаіда Бандарэнка.

## 26 красавіка

**Міжнародны дзень памяці пра Чарнобыльскую катастрофу і Міжнародны дзень інтэлектуальнай уласнасці.**

**1899.** У вёсцы Замосце Узденскага раёна на Міншчыне нарадзіўся пісьменнік і перакладчык Ілья Гурскі, у гонар якога названая адна з вуліц сталіцы. Быў да Другой сусветнай вайны рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», падчас яе — рэдактарам газеты «За свабодную Беларусь» і сатырычнага лістка «Партызанская дубінка», а пасля вайны — часопіса «Беларусь».

**1929.** У Дукштах (цяпер гэта Літва) нарадзіўся гісторык і дзеяч беларускай меншасці ў Польшчы Юрый Туронак. Аўтар кніг «Беларускае школьніцтва на Беласточчыне», «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі», «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», «Беларуская кніга ў Другой Рэчы Паспалітай», «Людзі СБМ». Памёр сёлета ў студзені.

**1929.** У вёсцы Гарадзец Рагачоўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся Мікалай Слюнькоў, першы сакратар ЦК КПБ (гэта значыць, кіраўнік БССР) у 1983–1987 гадах. Пасля — сакратар ЦК КПСС, член Палітбюро КПСС і загадчык Эканамічнага аддзелу ЦК КПСС. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савету СССР.

**1939.** Нарадзіўся знакаміты савецкі акцёр Уладзіслаў Дваржэцкі. Фільмаграфія: «Бег», «Салярыс», «Вяртання няма», «Зямля Саннікава», «Да апошняй хвіліны». У траўні 1978 года памёр праз інфаркт у Гомелі, куды прыехаў на сустрэчу з гледачамі.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №611

Падпісана да друку 19.04.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.